


ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ



БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# НАПЕРАД!



8

ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ

# НАПЕРАД!

ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ

№ 8

Красавік 1948.

Год выд. I.

Скаўцкае Выдавецтва
"КРЫНІЦА"

# ПАД СКАЎЦКІ СЬЦЯГ !

У 4-ым нумары нашага часапісу мы пісалі аб карысьцях арганізаванага жыцьця. У гэтым артыкуле мы хочам абгаварыць гэта больш канкрэтна.

Ужо даволі даўгі час шмат нашае моладзі знаходзіцца ў Ангельшчыне. Колькасьць яе й цяпер павялічваецца праз напльіў дабраахвотных работнікаў зь Нямеччыны й Аўстрыі. Зусім зразумелай рэчай зьяўляецца тое, што моладзь хутка адчула патрэбу свае палітычнае арганізацыі, якая-б найбольш адказвала іхнім імкненьням. Гэтак паўстаў Беларускі Незалежніцкі Народна-Хрысьціянскі Рух (чыт. "Беларус на Чужыне", № 7/11/). Гэтая арганізацыя імкнецца да; як найхутчэйшага зьдзейсьненьня нашых незалежніцкіх ідэалаў, ажыцьцяўленьня дэмакратычных прынцыпаў у беларускім нацыянальным жыцьці й ажыцьцяўленьня хрысьціянскіх ідэалаў як у прыватным, так і грамадзкім жыцьці. Нічога дзіўнага, што БННХР хутка ахапіў большую частку сьведамага элементу нашае моладзі. Дый кожны Беларус-незалежнік будзе вітаць яго ўжо хоць-бы як новую беларускую незалежніцкую арганізацыю, не ўлічваючы й іншых узьнёслых ідэалаў, да якіх ён імкнецца. І мы верым, што БННХР дасьць шмат карыснага сваім сябрам; узмоцніць іх маральна, падрыхтуе стойкіх змагароў за нашую агульную справу.

Аднак ці ня менш патрэбным зьяўляецца зарганізаваньне Беларускага Скаўтынгу тут у Ангельшчыне?

Скаўтынг - гэта міжнародная арганізацыя моладзі, прызнаная ўсім цывілізаваным сьветам; амаль няма такое краіны, дзе-б моладзь ня была ахоплена скаўцкім рухам.

Што-ж ставіць сабе за мэту скаўцкая арганізацыя? На гэтае пытаньне гэтак адказаў заснавальнік скаўтынгу, Бодэн-Паўэль; "... в ы х а в а н ь н е н а в ы с о к і х і д э а л а х ; н я с а м а д в е р ы , н а п а ч у ц ь ц і а б а в я з к у , н а с і л е д у х а , н а с а м а п а ш а н е й п а ш а н е д а і н ш ы х - а д н ы м с л о в а м н а т ы х я к а с ь ц я х , я к і я т в о р а ц ь х а р а к т а р " /1913/.

Скаўцкі-ж дэвіз гучыць

"Бог і Бацькаўшчына". Інакшымі словамі – скаўцкая арганізацыя стараецца ўзгадаваць моладзь на добрых хрысьціянаў і добрых грамадзянаў-патрыётаў свайго краю.

Нічога дзіўнага, што арганізацыя з гэткімі ідэялёгічнымі асновамі знайшла водгук ува ўсім сьвеце. Не асталіся й Беларусы – ужо ў 1921-м годзе паўстаюць першыя аддзелы беларускіх скаўтаў. Скаўцкі рух расьце й разьвіваецца, ня гледзячы на тое, што Палякі, бачачы, што з ростам арганізацыі расьце й нацыянальная сьведамасьць моладзі, увесь час перашкаджаюць гэтаму.

Апошняя вайна закінула шмат нашае моладзі ў Нямеччыну. Гэта дало магчымасьць для стварэньня й там Беларускага Скаўтынгу. За кароткі час ён заняў далёка не апошняе месца сярод іншых нацыянальнасьцяў, ня так колькасьцяй, як сваёй якасьцяй. Гэта даводзяць вынікі розных міжнародных скаўцкіх змаганьняў і імпрэзаў, зь якіх нашы скаўты амаль заўсёды выходзяць пераможцамі, годна рэпрэзэнтуючы імя Беларуса. Аб гэтым сьветчыць гэтаксама й нядаўная сустрэча Галоўнага Скаўта лёрда Роўэлэна ў Гамбургу, дзе беларуская скаўцкая група прыцягнула асаблівую ўвагу сваёй скаўцкай вырабленасьцяй і здаровым гумарам.

Як мы бачым з практыкі, скаўтынг ня толькі дае шмат карыснага моладзі, але, як арганізацыя міжнародная й усімі прызнаная, найлепш надаецца для прапагаваньня нашае нацыянальнае справы між чужынцаў, а гэта зьяўляецца адным з найгалоўнейшых заданьняў нашае эміграцыі.

Адной з найбольшых перашкодаў тут у Ангельшчыне гэта тое, што моладзь тут параскіданая па ўсім краі. Аднак пры добрай волі й ахвоце можна й тут шмат зрабіць. Праўда, мы ня зможам тут ладзіць экскурсіі, рабіць свае скаўцкія лягеры – жыць сярод прыроды. Аднак ня ў гэтым увесь сэнс скаўцкае працы – "гэта толькі мэтады а ня мэта", сказаў сам заснавальнік скаўтынгу. А хто-ж, як ня мы, ведае лепш жыцьцё прыроды, узгадаваўся сярод яе? Хіба ня туташні жыхар, якому прырода – гэта клетка з канарэйкай у агоньным пакоі і тры падстрыжаныя дрэвы пад вакном...

Намзастаецца самае галоўнае – праца над удасканаленьнем характару. А працаваць над сабой ніколі ня позна!

У.С.

====0====



## Сарві ружу

Сяргей Ясень

Лапуху, крапівы у зарасьлях густых,
Пасярод пустазельля глухога,
Распусьціліся вясной пышных ружаў кусты,
Засьмяяліся Сонцу і Богу.

Хочаш ружу сарваць? Хочаш радасьці ты?
Ну чаго-ж – не чакай, брат, панукі;
Папячы свае ногі агнём крапівы,
Пакалі ты калючкамі рукі,

І сарві цьвет вясны – пышных ружаў букет,
Занясі яго ў сьветлы пакоік, –
Хай напоўніць ён шчасьцем і радасьцяй сьвет,
Хай цябе і другіх супакоіць.

---0---

Рэдакцыя часапісу "Наперад!" і "Дванаццатка" вітаюць праваслаўных Беларусаў з нагоды Вялікодных Сьвятаў.

ХРЫСТОС УВАСКРОС !

## Санэт

Сяргей Ясень

Хрыстос Уваскрос! – раздаецца над сьветам.
Пачуйце, народы; Хрыстос Уваскрос!
Цудоўная песьня сплывае зь нябёс.
Я дзень гэты новым вітаю санэтам.
Ня жаліўся Ён, а зь лета на лета
Цяжар праз жыцьцё на плячох сваіх нёс.
Яго ўкрыжавалі і Ён уваскрос,
І сяньня народы сьпяваюць пра гэта.

Магутнага Бога ёсьць воля такая,
І гэтае волі ніхто ня стрымае.
Пасьля страшнай сьмерці Хрыстос уваскрос,
Па лютай зіме – зноў вясна у прыродзе,
Пасьля цяжкіх мукаў, што Ты перанёс,
Устанеш, жывы Беларускі Народзе!

----0----

# Родны Край

x x x

Дымяць фабрычныя каміны. Сваім дымам яны ахутваюць усё: пачарнелыя ад вечнай копаці дрэвы, што ня ўсьпелі яшчэ добра распусьціцца, дамы, зямлю. Няма мясьцінкі, дзе-б можна было схавацца ад іх; яны ўсюды, ты ў іхнім коле.

Дымяць фабрычныя каміны...

Родны Край! Як далёкі, і заадно як дарагі Ты мне! Тут, у гэтым, прасяклым копацяй, краі Ты сьмяешся мне здалёк чыстым блакітам свайго неба, хмурыш бровы першай вясновай бурай. Гледзячы ў мутны фабрычны басэйн, я бачу чыстыя як крышталь воды Твайго Нёману. Родны Край, як дарагі Ты мне!

Не адзін Твой сын стараўся апісаць Тваю красу. Але ці магчыма гэта? Ці магчыма перадаць славамі звон вясновых ручайкоў, пах першых красак на Тваіх лугох, радасны крык дзікіх гусей, што варочаюцца з далёкае чужыны? Ці магчыма апісаць таемную веліч старых курганоў, што, прыбраўшыся ў новы вясновы строй, горда стаяць, зайздросна хаваючы Тваю мінуўшчыну перад вокам чужынца? І навет яны, чужынцы, што ўжо стагодзьдзямі рабуюць Цябе, Твае красы зрабаваць ня могуць: ня ў іхніх сілах зрабіць, каб выліняў блакіт Тваіх вазёраў, зелень Тваіх лясоў, сінь Тваіх даляў; ня ў іхніх сілах прыцішыць гоман Тваіх пушчаў. Ім не зрабаваць Твае красы – яна ў сэрцы кожнага Твайго сына.

Родны Край, як дарагі Ты мне!

===0===

# Усяслаў

Ягор Ліцьвін

Адзін за адным як вагоны велізарнейшага бясконцага эшалону, бягуць гады. Злучаючыся ў дзесяцігодзьдзі, стагодзьдзі, тысячагодзьдзі й ня спыняючы ні на часінку свайго магутнага напору, няўтомна коцяцца. Коцяцца спакойна, не адстаючы адзін ад другога, не пераганяючы. І нішто – ні багацьце й роскаш міранага жыцьця, ні дзікі разгул вайны зь ейнай жудасьцяй, ні сьмех, ні плач, ні



шчасьце ці няшчасьце людзкое – ня могуць зьмяніць іхняга ходу – ні спыніць, ні прысьпешыць яго.

Дзіўныя яны, гады! Сваім нязьмерным цяжарам яны крышаць самае цьвёрдае, сваім цудоўным лекам яны загойваюць самае балючае, у сваім нястрымным бегу яны нараджаюць вялікае. Магутны, вечны рухавік – час!

Вялікая й магутная мінуўшчына беларускага народу! Вялікая, бо яе стварыў вольны народ на працягу стагодзьдзяў у абароне сьвятога – свабоды свае. Вялікая таму, што тварылі яе сэрцы шчырыя, што паўстала яна ў сьмерці тысячаў жыцьцяў, што аблілася морам гарачае крыві.

А вялікага ня зьнішчыць нішто! Ня зьнішчыць, бо яно ў сэрцах захавана. І як цяжкое кола паравозу ня можа расьціснуць голкі на рэйцы, так час, які ён ні цяжкі, ня можа зьнішчыць вялікага, бо яно ў сэрцах, і ня зьнішчыць сэрцаў, бо ў іх вялікае. Залатой істужкаю яно цягнецца праз гады, дзесяцігодзьдзі, стагодзьдзі. Бясконцай, як самыя гады, сьветлай, як сонца, вялікай, як самая веліч. І хто гляне на яе, той шчасьлівы, бо непагасны агонь яна запальвае ў сэрцы, улівае ў яго вялікае.

Магутная слава Крывічоў!

Слаўны князь Усяслаў Чарадзей!

Сьветлыя гады ягонага княжаньня. Гэта прызнала яму гісторыя.

Не баяўся стары князь Брачыслаў за свой народ. Спакойна ён дажываў свой век і ніяк ня мог налюбавацца сынам-сокалам – маладым, здаровым Усяславам. Перадаў яму бацька ўсё; сваю даўгагадовую практыку справядлівага кіраваньня народам, сваю адвагу для абароны гэтага народу ад ворагаў, сваю бязьмежную любоў да яго й да прыгожага, багатага краю. І сын пераняў гэта ўсёй сваёю чуткай душою й сэрцам. Пераняў, каб даць шчасьце народу. І народ быў шчасьлівым. "Князь Усяслаў людзьмі кіраваў, князём гарады парадкаваў", гаворыць летапіс. А гарадоў упарадкаваў многа: Слуцак, Віцебск, Воршу, Мсьціслаўль, Лукомль, Друцак – усё злучыў у адно магутнае Полацкае княства. Усім даў свабоднае, радаснае жыцьцё ў ім. Пяцьдзесят сем гадоў, ад 1044-га да 1101, ня знаў беларускі народ гора. Ня знаў, бо быў вольным, бо ім кіраваў мудры князь, якога Чарадзеем за яго розум і справядлівасьць празвалі. Адважным быў князь, адважным быў і народ. У сутычках з ворагам не адыходзіла з поля бою княжая дружына, не баяліся паміраць Крывічы за свой вольны край.

А біліся шмат дзе; у 1065 годзе пад Псковам, у наступным, 1066 – пад Ноўгарадам. Зь вялікім лікам палонных і мноствам багацьця вяртаўся адтуль Усяслаў.

Не па душы гэта было паўднёвым суседзям Усяслава,

князём кіеўскім – Ізяславу й Сьвятаславу. Не па душы, што расла магутнасьць Полацку. І ў 1067 годзе, сабраўшы вялізарную дружыну, рушылі яны вайной на вольны край.

Чорны дым пажараў зацямняў сонца днём, крываваяя чырвань іх зарыва расьсякала цемень ночччу – спусташэньне, жах, сьмерць насоўваліся з паўдня. У страсе беглі жанчыны й дзеці на поўнач пад ахову княжае дружыны. А князь, выслухаўшы парады веча – мудрых сівабародых старцаў – сеў на каня, дастаў гойстры стальны меч і, узяўшы яго ў палову, падняў ручкай уверх. Мячом, які ў ягоных руках нагадваў крыж, блаславіў князь дружыну, народ на бой з ворагам. Блаславіў і, як віхар панесься на поўдзень яму на сустрач. А вораг быў ужо ў Менску. І далей ён не пайшоў. На рацэ Нямізе паказалі Крывічы, як трэба бараніць волю, народ, край. "Слова аб Палку Ігаравым", апісваючы славу Усяслава Чарадзея, гаворыць аб біцьве над Нямігай: "На Нямізе сьцелюць галовы, як снапы малоцяць цапамі сталёвымі, на таку жыцьцё кладуць, веюць душу ад цела. Крывавыя Няміжскія берагі ня збожжам былі пасеяны – пасечны былі касьцьмі". Не спалохаліся вой князя колькаснай перавагі непрыяцеля. Не спалохаліся, а сьмела, зь верай у перамогу, уступілі ў бой. І біліся да апошняга. Услалі зямельку роднаю сваімі галовамі, напаілі яе гарачай крывёю, спавілі ў славу свой народ, сьмяротна ранілі ворага. А ён хоць і перамог, аднак "перамогі" ня было каму выкарыстоўваць. Змучаны, аблітыя крывёю і потам, зь невялікай рэштай сваёй дружыны, мусіў ісьці кіеўскі князь на мірныя перамовы з Усяславам.

Нічога дрэннага ня думаючы, паехаў Усяслаў у варожы лягер на перамовы. Аднак тут здарылася тое, чаго ён не прадбачыў: падступным спосабам яго схапілі й завезьлі ў Кіеў у палон.

Ня лёгкім было князю расстаньне з каханым народам і краем. Седзячы ў халоднай кіеўскай "парубе" (падвале) ён чуткім сэрцам сваім чуў, як званілі званы Сьвятое Сафіі ў Полацку, чуў гарачыя малітвы народу і сам разам зь ім маліўся за любы край, за шчасьце ягоных жыхараў. І пачуў Бог гэтыя малітвы.

У 1068 годзе, за няўдалую вайну з палаўцамі, прышлося кіеўскаму князю Ізяславу уцякаць перад збунтаванымі кіеўлянамі. Прагнаўшы свайго собскага князя, яны папрасілі Усяслава сесьці на княжы пасад у Кіеве, бо слава аб ягонай мудрасьці й справядлівым княжаньні, як рэха пракацілася далёка за межамі Полацкага княства.

Ня доўга аднак даваў ім Усяслаў свае мудрыя парады. Ніякія палацы, багацьце й раскаш чужога краю не маглі замяніць яму таго, што ён пакінуў у родным далёкім Полацку. Дый ня што яму чужое багацьце, калі там, у сваім краі, свайго куды ня меней. Ні днём, ні ноччу туга па роднай краіне не давала супакою князю. Званы Сьвятой Сафіі яшчэ больш трывожна, больш настойліва званілі ў ягоным сэрцы, калі сьцены цямніцы замяніліся ў багацьце кіеўскага княжага пасаду. Яны клікалі яго да свайго народу. І князь ня вытрываў: па нядоўгім часе ён пакінуў Кіеў. Пад аховаю цёмнае ночы пайшоў князь на поўнач – на Бацькаўшчыну. Князь вярнуўся ў Полацак.

Ізноў шчасьце запанавала ува ўсім краі. Кроў, што чырваньню заліла берагі Нямігі не дала памерці волі, шчасьцю народу, ня прытупіла адвагі мужных вояў, не патушыла агню свабоды ў іх сэрцах.

Далей, аж да 1083 году, яны вялі зацятае змаганьне з тым-жа Ізяславам, якому польскі кароль Балеслаў дапамог вярнуцца на свой пасад, і зь ягоным наступнікам – Манамахам. Далей расла слава князя, ягонага народу, ягонага краю. Ня раз прыходзілася яму із сваёй дружынаю тупіць мячы аб панцыр ворага ў вабароне свабоды. Ня раз, пасьля доўгіх паходаў на варожых землях, вяртаўся ён з новай перамогай, з новым багацьцем, з новай славай. Балюча прыходзілася ворагам за іх дзярлівыя кіпцюры: гойстрым мячом секлі па іх сыны слаўнае беларускае зямлі.

Магутнае вырасла Полацкае княства. Такім засталося яно аж да сьмерці мудрага князя. Злучанымі ў адно вялікае княства ўсе беларускія землі й вялікую частку Прыбалтыкі пакінуў Усяслаў Чарадзей сваім сыном: Рагвалоду, Раману, Барысу, Глебу, Давіду, Расьціславу й Сьвятаславу. А пакідаючы гэтак казаў: "Любеце народ і край, як любіў іх я, Бараньце свабоду, як баранілі яе мае вої".

Памёр князь, 14-га красавіка, калі вясна пачынала красавацць на зямлі, убірала у зелень неабсяжныя прасторы, разносіла пах першых вясновых красак, ён закрыў свае зыркія вочы.

Памёр князь. Шмат прыгожых легендаў злажыў народ аб ім: аб ягонай чарадзейскай сіле, якую даваў яму нібы радзімы значок, што быў у яго на чале, які ён закрываў павязкаю; аб тым, як князь, замяніўшыся ў шэрага воўка, абягаў край, глядзеў, як жыве народ, аб ягонай любові, справядлівасьці, адвазе й веліччы.

Жыве памяць аб Усяславе. Восемсот сорак сем зімаў не замаразілі яе сваімі лютымі маразамі, восемсот сорак сем вёснаў кожны раз убіралі яе вянкамі першых вясновых красак. Ня зьнішчылі яе й ворагі, якія вырывалі з душы Беларуса ўсё прошлае, слаўнае. Ня зьнішчыў яе й час, што крышыць найцьвярдзейшае. Ня зьнішчыў, бо яна вялікая, бо яна ў сэрцах.

== § ==

# Стоптаны Полацак

А.Будзіч.

Развалінамі цэркваў старажытных,
Руінамі замчышчаў – сьветкаў даўнай славы,
І пажарышчамі, зарослымі травою,–
Ляжыць стаптаны Полацак.
У развалінах калішняга асілка
Ляжаць званы, што зь вежамі спад неба,
У гарачай, у зацятай біцьве
На землю раненымі ўпалі.
А песьня іх, якую кат ня ў сілах
Быў спутаць ланцугом сьмяротным,
Лунае ў паднябесьсі над забраным краем.
Бо несьмяротная свабоды песьня!
Ляжаць геройскія званы,
Снуючы сны аб стройных вежах...
І толькі вольная Дзьвіна,
Якая не далася ў кайданы няволі,
Грыміць і гнеўна пеніцца,
Рвучы грудзьмі каменныя парогі.

Усё ахутана непранікальнай цеменяй,
Што заліла развалінны,руіны, пажарышчы.

Далёка дзесь крывавы блеск пажару
Пякельным языком узьняўся аж пад хмары.

Як злыбядзі, чарнейшыя за ноч,
З нажамі, зь петлямі ў руках
Валочацца прыблуды-сьцені,
У дзікім рогаце ськівгічучы зубамі.

Развалінамі цэркваў старажытных,
Руінамі замчышчаў – сьветкаў даўнай славы,
І пажарышчамі,зарослымі травою,
Ляжыць стаптаны Полацак.
А над усім – з граніту,
З найцьвярдзейшай сталі –
Магутны манумэнт, што ўзьнёс народ
Свайму вялікаму герою – Князю.
Дарма ўзьнімаюць ўверх нажы,
Шалеючы ў бясьсільнай злосьці,
Дарма грызуць яго прыблуды-сьцені,
Ламаючы клыкі –
Магутны Князь;
Скалою, найцьвярдзейшаю скалою,
Узьняўся Ён над краем зрабаваным.



Пад ім, як вецер конь
Стралой імчыцца ўдаль;
Пачуў трывогу бою;
У руках сталёвы меч,
Нагостраны у новае змаганьне;
І вочы – зыркія пранікліўыя вочы.
Узглядам іх абкідвае краіну Князь,
Глядзіць, і грозна хмурыць бровы;
Ён бачыць, як
Развалінамі цэркваў старажытных,
Руінамі замчышчаў – сьветкаў даўнай славы,
І пажарышчамі зарослымі травою,
Ляжыць Ягоны Полацак.
Князь чуе ціхі звон,
Трывогаю што цісьне сэрца –
Звон Праўды закапанае,
Прыдушанай свабоды.
Вагонь гарыць у Князевых вачох,
А зарыва далёкага пажару
Крывавым водблескам
Кладзецца на мячы сталёвыя.
І ён блішчыць, як помста,
У моры цёмнай ночы.

А унізе прыблуды-сьцені
Шалеюць ў страсе
І бясьсільнай злосьці.

====§====

# Вялікдзень

М.Багун

У тумане штодзённай працы незаўважна праходзяць падоб – ныя адзін да аднаго дні.

І вось – падыходзіць Вялікдзень... Напэўна ніхто зь Беларусаў ня зможа спаткаць яго тут на чужыне так, як спаты – каў калісь у роднай хаце. А колькі ёсьць такіх, якія ў гэты дзень не пачуюць навет ніводнага роднага слова, не пачуюць ад нікога гэтак радаснага "Хрыстос Уваскрос!" І тады кожны зь іх напэўна перанясецца думкамі ў родны край...

На час вялікодных сьвятаў наш народ стварыў за вякі ба гатую й прыгожую традыцыю. І цяпер, хоць абставіны кінулі яго ў цяжкую няволю, ён сустракае гэтыя сьвяты так, як сус– тракалі ягоныя дзяды й прадзеды; у гэтыя дні ён адпачывае душой у скарбах сваіх традыцыяў.

Ужо пачаўшы ад Дабравешчаньня, калі наша вёска пачынае рыхтавацца да вясны, то сям, то там пачуеш вялікодныя мелёдыі; моладзь ужо загадзя рыхтуецца да сьвятаў.

А час ідзе. Хутка ўсюды ўжо адчуваецца, што надыходзіць нешта нязвычайнае. У хаце рух, маці завіхаецца як ніколі. Дый бацьку клопатаў хапае; сьвяты не за гарамі – трэба-ж дзяцей апрануць. А яны ўжо й ведаюць, праходу не даюць; "Тата, мне чаравікі новыя купіш? А то бачыш во, гэтыя ўжо дзяруцца!" "А мне, тата, сукенку ў кветачкі, добра?" А тата ўсім абяцае ды камбінуе, як тут усім угадзіць. Малыя – дык гэта яшчэ ня так страшна; зь імі лёгка. Але вось старэйшы нядае, каб боты новыя купіў – трэба-ж і яму па вёсцы козырам прайсьці! А з дачкою, дык гэта чыстая бяда – тут ужо што-небудзь не паможа – купляй усё новае з ног да галавы. Дый куды ня дзенешся – суседава ўжо разоў тры прыбягала – хвалілася сваёй сукенкай. А няўжо-ж тая будзе мець, а ягоная не? Ну, гэтага 'шчэ ня бывала! Трэба будзе раскашаліцца... Што зробіш – гэта-ж Вялікдзень!

За тыдзень перад Вялікаднем – у Вербную Нядзелю – ідуць сьвяціць вярбу. Прыйшоўшы дахаты, маці абавязкава пасьцёбае ўсіх вярбой, прыгаварваючы; "Ня я б'ю – вярба б'е, за тыдзень – Вялікдзень!" – гэта, каб цэлы год здаровымі былі. Пасьля вярбу хаваюць за абразы – яна яшчэ патрэбная будзе, калі прыйдзецца першы раз скаціну ў поле выганяць.

Апошні тыдзень – гэта самы гарачы ў цэлым годзе. А маці, дык як яна сама кажа – сто работаў, хоць спаць не кладзіся. А што пачынаючы ад Чыстага Чацьвера, дык запраўды спаць няма часу; трэба памыць хату, прыбраць двор (трэба абавязкава ў Чысты Чацьвер – каб цэлы год чыста было). А тут – гэтаксама ў Чысты Чацьвер – трэба дзяцей дагледзець, каб на парозе ніткі пралі да сонца, і то ў адной кашулі – а гэта, каб нагі ці рукі ня вывіхнуць за цэлы год. Калі-ж ужо й здарыцца гэта, дык тады трэба перавязаць гэткай ніткай.

А бацька ўжо на дні ўважае. Бо-ж ведама; калі пагодны Чысты Чацьвер – значыць будзе пагодная вясна ў гэтым годзе; калі пагодная пятніца – пагоднае лета, субота – пагодная восень.

У пятніцу печ у работе цэлы дзень; пячэцца, варыцца, смажыцца. Маці выпраўляе дзяцей пагуляць, бо круцяцца ўсё пад нагамі, перашкаджаюць. Але ці ты ім дасі рады; як-жа тут ісьці з хаты, калі вунь яйкі хварбуюцца – трэба-ж будзе прыпільнаваць, каб бацька адразу пазубаваў ды выбраў наймацнейшыя на біткі. А ўжо калі зь печы ўсё дастаецца, то тут заклядай пост які хочаш, дык толку мала – што там ім ігрушы ці ягады вараныя, калі бабкі проста ў рот просяцца.

У Красную Суботу пануе ўжо ў хаце сьвяточны настрой.



Хата выглядае, як ніколі – сьцены выбеленыя ці абітыя паперай, абразы ўбраныя, ложкі чысьцюсенька засланыя, качарэгі, ўхваты ... – і тыя ў парадку. Двор – замецены й высыпаны пясочкам. Усе ўжо гатовыя, чакаюць. Толькі маці, дык тая да самай Усяночнай усё нешта рыхтуе; булкі сартуе, нейкія там стравы пераастаўляе, дый сьвяньціць у кошык прыбраць трэба. На Усяночную ідуць усе. Царква поўная – людзі стаяць навет на дварэ. У царкве ціха, толькі гучыць голас сьвятара ды прыцішана сьпявае хор. Калі-ж прыходзіць 12-ая гадзіна і сьвятар выходзіць з радасным "Хрыстос Уваскрос!" – закалышыцца поўная царква, быццам нейкі вецер прабягае па ёй. І як шум мора "Запраўды Уваскрос!" з моцнай верай гучыць адказ. А хор, быццам пацьвярджаючы гэтую вялікую навіну, магутна ўрываецца; "Хрыстос уваскрос зь мёртвых – сьмерцяй сьмерць перамог!" І кожнаму здаецца, што Хрыстос уваскрос не стагодзьдзі назад, а вось у гэты момант – нешта новае, моцнае ўліваецца ў душу...

На сьвітаньні, пасьвянціўшы, разыходзяцца ўсе да хаты. А там вялікоднае сьнеданьне. Бацька, згаварыўшы малітву, канчае зычэньнямі; "Дай Божа, каб за год прычакалі!" Тады дзеляцца ўсе сьвянцоным яйкам, а пасьля – чаго толькі душа жадае; мяса, пірагі, бабкі, кварашаніна – стол проста цьвіце.

Першы дзень усе праводзяць у хаце, у сваёй сям'і. Затое назаўтра – што толькі робіцца ў вёсцы! У кожнай хаце госьці, песьні, сьмех – радасьць аж пераліваецца. На вуліцы відаць групкі –"біткі" йдуць у ход. Вось два стаяць з "мацакамі" ды ніяк ня могуць пагадзіцца, каму трымаць, а каму біць. А з боку паддаюць; "Трымай, Сымон, хіба ты ў яйцы радзіўся? Хай б'е!" Наважыўся Сымон, трымае. І тут – лусь, лусь, і па "мацаку". І праклінае Сымон тую хвіліну, калі надумаўся трымаць – каб біў, дык можа-б і выбіў...

Калі сонца схіліцца з паўдня, пачынаецца валачобніцтва. Знойдзецца валачобнікаў, якіх захочаце; і па 10 гадоў, і па 15, і старых пяўцоў, дзе скрыпкі й гармонікі ўдзел бяруць. Зразумела, большую ўвагу прыцягваюць старэйшыя валачобнікі, бо яны табе так напяюць-наўвялічаюць, што й апісаць трудна. А сяло ўсё й снуе за імі. Чуеш – у ваднэым двары гаспадару пяюць; "Дай табе Божа, Пане Гаспадару, піва варыці ды сыноў жаніці; гаралачку гнаці, дачок аддаваці... Твае жане ды баброву шубу, а самому Пану круглае поле". Пайшлі ў другі – паненцы жараць; "У вагародзе, у чыстым частаколе ня мак – ружа расьцьвітала". У трэйцім – гаспадыню проста ўздымаюць; "У нашай гаспадыні – як рашата дыні, агуркі, гарбузы – як вядро дужы". Далей чутно – і кавалеру пяюць; "Паміж гарамі, паміж ручаямі..." І так валачобнікі за валачобнікамі – усіх не перачакаць. Ужо пад поўнач падбіраецца, а сяло ў песьнях топі-

цца, нат пад сьвет яшчэ пачуць можна валачобнікаў.

Весела праходзіць Вялікдзень. А пасьля – прысьвяткі: градавая серада, чацьвер, ды так аж да нядзелі. Прайшла нядзеля – церазь дзень і Радаўніца. А там, бывае, і Юр'я за дзён два падскочыць – у вёсцы ўсё яшчэ сьвяточны настрой.

Нідзе з народаў ня жыве цяпер у гэткіх цяжкіх умовах, як наш. Але навет у зямлянцы, ня маючы ўдоваль хлеба, наш селянін моцна верыць: уваскрос Хрыстос – хутка ўваскрэсьне Воля.

§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§ – x – §§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§

Сяргей Ясень

x x x

Памятаеш спатканьне апошняе –
Мы сустрэцца дамовіліся зноў –
Пацалунак, і цяжкую, позную
Нашу ростань бязь сьлёз і бяз слоў?

Я чакаў, хваляваўся, і ночамі
Спатыкаўся з табою ўва сьне,
Ты-ж сьмяялась, цьвіла васілёчкамі,
І цярпеньне гаіў мне твой сьмех.

Ты прыйшла, як заўсёды, вясёлая,
Дый іначай ты быць не магла...
Твая белая ручанька кволая
На плячо мне пяшчотна лягла.

У твой прыгожанькі тварык пагледаў я,
Што сказаць пры сустрэчы – ня знаў...
Ты нарэшце прыйшла, ненаглядная,
Маладая красуня-вясна.

––§––



Паўлюк Вазёрны

# Ён дайшоў

Зашчымела сэрца у хлапчыны,
што раз горай... Не перадыхнуць.
Аж і ён із выраем гусіным
у вясновых сінях патануў...

(Н. Арсеньнева)

Пыхкаючы ад хуткага бегу, цягнік прыпыніўся на маленькай станцыі, паблізу мяжы Чэхіі. Зь дзьвярэй вагона выглянуў нейкі чалавек. Ён, кінуўшы трывожны позірк на пэрон, хуткімі крокамі накіраваўся да выхаду. На ім была лёгкая дарожная вопратка, на галаве тырчэў бокам капялюш, – паходны мяшок за плячыма. У выпускных варотах яго затрымаў "эмпісты", пытаючы папераў. Пры гэтай неспадзеўцы твар незнаёмага нахмурыўся. Мігам ён стаў загаварваць амэрыканца, тычучы пад нос свае паперы, якіх аказалася толькі пасьведка Д.П. Амэрыканец разумеў панямецку, а таму нашаму незнаёмаму пашчасьлівілася давесьці, што ён прыехаў да сяброў, якія жывуць паблізу. Жаўнер узяў Д.П., дастаў кніжачку і, зірнуўшы ў вочы незнаёмага, выпісаў: "Калюшка Пётра" і, перадаючы картачку Д.П., дадаў, што ён можа йсьці. Пасьля гэтага Калюшка мінуў станцыю й накіраваўся перавулкам за места. На вежы прабіла восем гадзінаў вечара, але сонца стаяла яшчэ досыць высока. Пётра, не сьпяшаючыся, зьвярнуў у бок рэчкі, скінуў мяшок і прылёг на мяккую траву. Пасьля мінутнага супачынку, абмыўся ў рачной вадзе (бо ўжо была палавіна траўня), дастаў вузялок з картай і компасам і, закурыўшы "Камэля", доўга ўзіраўся ў бок лесу, за якім, праходзіць мяжа між Нямеччынай і Чэхіяй. Гэты шлях яму быў вядомым, бо напярэдадні капітуляцыі прыйшлося вымерыць яго ўласнымі крокамі. Калі сонца ўвайшло ў абдымкі гораў, Пётра пачаў рыхтавацца да дарогі. Дастаў з-за пазухі малы кішэнны пісталет і, праверыўшы патроны, палажыў у бакавую кішэню. Гэты маленькі пістолецік меў памагчы яму зьдзейсьніць ягоны плян. Ён пастанавіў і мусіць дабрацца туды, хоць-бы гэта й каштавала жыцьцё. Пры думцы аб сваей мэце ад радасьці яму кружылася галава. Аб тым, што чакае яго ўперадзе, стараўся нядумаць, а падбадзёрваў сябе ўспамінамі далёкага мінулага. Пасьля закінуў

паходны мяшок і бадзёрымі крокамі падаўся да лесу. А там ён адчуваў сябе, як дома. Поўнымі грудзьмі ўдыхнуўшы мяккага вясноваго паветра, сьвіснуў салаўём і зьнік між сьценаў заімшэлага лесу.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Эх гоні! Залацістыя гоні! Колькі яскравых абразкоў пакінулі вы з затойлівымі пушчамі, із сінявой глыбінных купалоў міжзарасьніковых вазёраў у незабытных успамінах чалавека-бяздомніка, шукача долі сярод замкнутых прастораў далёкага Захаду. Пяць гадоў надзеяў, пяць гадоў жыцьця ўспамінамі. Ты стараўся прывыкнуць да гэтых абставінаў. Але, ці можа прыгарнуць цябе пустэльле бязрадасных абшараў чужыны, пакарыць твае імклівасьці да пакінутага. Эх, гоні!.. Незабытныя вы з напевам вечаровых гушчараў, з далёкімі абрыўкамі сьмеху й песьняў маладосьці, з п'яным парывам сэрца і хмелям галавы кожнага, каму выпала доля палюбавацца тваім хараством. І ты ізноў любуешся ім! Не, гэта, здаецца, сон закінуў цябе сюды й баюкае хвіліннай уцехай. Але-ж ты чуеш выразна музыку чырвеньскага вечару. Не... Ты ня сьпіш!... Тваё вуха ловіць знаёмыя гукі прыроды; сэрца адчувае радасны парыў... Вось чуеш, яно табе шэпча ў дробным такце: "Ты ня сьпіш! Гэта праўда хваляваньнем закранае цябе... Ты зірні, зірні адчыненымі вачыма наўкола сябе й ты пераканаешся хутка... Зірні на цёмнасіняе люстэрка спакойнага Нёману, там ты пабачыш адлюстраваньне блакітнае далечыні...Можа яно табе паможа ўсхамянуцца... Дык зірні!.."

Дзесьці ў лесе пачуўся голас зязюлі, ёй у водказ пракаціўся над вадою трэль салаўя. Дзіцячай усьмешкай адбілася ўсё гэта на твары Пётры.

Быў вечар. Залацістыя праменьні сонца песьціліся з пацямнелай гладзьдзю вады, уздрыгвалі, як-бы ад холаду, і зайчыкамі хаваліся між пнямі надрэчнага хвайняку. Забыўшыся аб стоме, аб доўгай галадоўцы, Пётра засынаў у марах пад вечаровыя шэпаты бору. Перад ягонымі вачыма ўсплывалі малюнкі даўнапражытых гадоў маленства, калі ён, з групай падросткаў цэлымі днямі праводзіў час у лясных гушчарах, плёскаўся гадзінамі ў вадзе зарослага возера ці ганяўся па чаротах за маладымі качанятамі. У міжчасе лятуценьняў знаёмы гук зь лесу крануўся ягонага вуха. Як-бы звон сякеры чуўся ўбок ад яго. Ягонае становішча змусіла ўважна прыслухацца да гэтага звону. Ужо пятнаццаты дзень адмерыў ён пераходам Нёману. Ідучы цёмнымі куткамі, мала куды заходзіў, таму за-



пас ежы зьнік зь мяшка яшчэ ўчора, а голад ня цётка, возьме сваё. Выйшаўшы на вузенькую сьцежынку, Пётра накіраваўся ў бок стуку сякеры. Неўзабаве паказаўся наладаваны дрывамі вазок, а ў бок ад яго, пад тоўстаю сухою альхою, стаяў каречком нейкі чалавек. Між кустамі праціснуўся бліжэй і стаў разглядаць дрывасека, вопратка якога адразу зраджвала беларускага дзядзьку. Ён быў апрануты ў саматканую сьвітку, падперазаны папружкай, з лапцямі на нагах. Каб не спалохаць яго, Пётра, кашлянуўшы, ціха аклікнуў дрывасека. Дзядзька, відаць зьнеспадзеўкі, павярнуўся хуценька й зьдзіўлена заморгаў вачыма, азіраючыся навокал.

— Дабрыдзень, дзеду! Але-ж і дровы выбраў добрыя.

Дзядуля зь недаверам пазіраў на Пётру. Пасьля дрыжачым голасам праціснуў;

— А, дабрыдзень, сынку. Вось апароў сухастоінку...гм... дабрыдзень, дабрыдзень...

На думку Пётры, старому было гадоў пад шэсьцьдзесят, а мо' й болей, бо рыжая бародка й доўгія валасы спад шапкі давалі від шмат старэйшага.

— Скажэце мне, дзядуля, ці не Беларус часам вы будзеце?

— Які ты, сынку, цікавы. А хто-ж ты будзеш? Як я бачу ты таксама з нашага краю, бо й гутарыш панашаму. Але яно сабе... Так, я тутэйшы, Беларус. Бачыш, цяпер не пазнаеш чалавека, хто ён такі. Адзін у лес, другі зь лесу, трэйці кніпае пазаўгольлю зь нейкімі патрабаваньнямі. Эх, часы...

— Так, дзядуля! Нічога ня зробіш, пакульшто трэба цярпець. А як-жа жывецца, ці як гэта сказаць, перажываецца?

— А хіба ты ня бачыш, сынку, што робіцца пад тваім носам, ці можа бачыць ня хочаш? Вось хоць-бы, ці мае гэта гады цягацца з гэтым вазком. Выгадаваў Пiлiп дзяцей, дачакаўся зьмены, дапамогі... Для каго ён іх гадаваў?.. Чорту лысаму на пацеху. На старасьць кавалка хлеба няма... А ці толькі гэта?..

— Так, дзеду. Але я пытаюся, бо мяне гэта цікавіць. Я разумею вас, што людзей шмат ёсьць розных тут, і трэба перш прыслухацца, чым гаварыць. Але я ня з т ы х падхалімаў. Вы разумееце мяне, дзядуля? Бачыце, бо я толькі нядаўна на сваёй роднай зямлі пасьля доўгага расстаньня, і...

Пётра агледзеўся ўвакол і, падсунуўшыся бліжэй да дзеда, пачаў расказваць, што яго прымусіла трапіць сюды.

— Дзеткі, дзеткі! Насталі гадзінкі... Ні табе супачынку — сядзіш і чакаеш якой-небудзь нябыльніцы. Хоць і дагэтуль

жыцьцё ня вельмі салодкае было, а ўсёж быў кавалак хлеба й свой куток. А цяпер выганяюць з свайго роднага кутка нямаведама куды... Бог ведае, што там чакае... Ах, дзеткі, дзеткі... І чым гэта ўсё скончыцца?.. Я сам меў двох сыноў і дачку, ды ня стала іх... Старэйшага расстралялі немцы з прыходам, а маладзейшага, Хведзьку, забралі маскалі, калі прагналі немца за Нёман. Насьцю, дачку маю, таксама забралі пазьней і павязьлі быццам на працу, як яны гаварылі. Бог ведае, ці жывая яна дзе?.. І прыйшлося мне на старасьць гадоў з Аўгіняю ўвадзіночку дажываць цяжкія гады – у бядзе, у нястачах, глытаючы дым у цёмнай зямлянцы. Многа нашых сялянаў павывозілі ўсьвет, засяліўшы іхныя мясьціны маскалямі й нейкімі казьбекамі, ці як іх... Тыя, каторых няўсьпелі захапіць ноччу, пайшлі ў лес, асабліва маладзейшыя. Цяпер пра іх ідуць розныя чуткі: там мост падарвуць, там ськівуць цягнік у вадкос. Маскалі, як зьвяр'ё, снуюць па вёсках, цягаюць да сваіх штабаў сялянаў, усё хочуць нечага дабіцца. Расклейваюць усюды свае адозвы, у якіх абяцаюць вялікія грошы таму, хто зловіць ім лесавіка. Ды дзе там!..

Па лесе даўно ўжо загулялі сутмеркі, калі дзядуля, крокчучы, пацягнуў вазок дадому. Неўзабаве ён вярнуўся з кавалкам чорнага хлеба.

– Ну цяпер, сынку, ідзі з Богам, я мушу вяртацца да свае курнае нары, а то, чаго добрага, нагоніць іх, нячысьцікаў, і будуць дабівацца, ды наводзіць справу, чаго па начах ходзіш. Дык бывай, дзетка, ды глядзі, будзь асьцярожным, бо яны, як тыя ваўкі, цікуюць з-за кустоў свае дабычы. Дай Божа табе шчасьлівай дарогі...

Разьвітаўшыся зь дзядулям, Пётра наважыўся лепей прасоўвацца ноччу, а днём рабіць супачынак. Лес яшчэ ня спаў. Спад Нёману даносіўся сьвіст салаўя, дзесьці з дупла гукнула сава, стараючыся прывабіць да сябе зайца. У начных поцемках, лопаючы крыльлямі аб суччо дрэваў, пранасіліся над галавою Пётры цені шалуднёў. У кірунку ўсходу прабіраўся Пётра між сосна́ў, трымаючы правую руку ў кішані зь пісталетам. У левай сьвяціўся фосфар компаса. Кілёмэтраў дваццаць пакінуў ён за сабою гэтай ноччу. Калі загулялі першыя праменьні сонца на вяршынях дрэваў, ён стаў падшукваць мясьціны, каб захавацца ў ёй на дзень. Кожны глухі куток яму здаваўся падазроным і змушаў шукаць другога логава. Зусім блізка ізноў закрычэла сваім пранізьлівым голасам сава, ад якога дрыжыкі перасеклі цела Пётры. Ён пачаў кляць, сам ня знаючы каго – ці надакучлівую птушку, ці сам сябе.

Ізноў толькі шум хвоя́ над галавою, ды ціхае патрэскваньне суччаў пад нагамі. Раптам ззаду пачуўся трэск гальля. Ня



ўсьпеў Пётра азірнуцца, як нешта цяжкое грымнула па галаве, ад чаго зашумела ў вісках. Кругі няпрытомнасьці заскакалі перад вачыма і ён, як падкошаны, апусьціўся на сырую зямлю хапаючы адчыненым ротам перадсьмяротнае паветра.

x x

Трымай, трымай... управа цягні... управа, у... Велізарнае кола ўзьлятае зь зямлі, ірве з карэньнем пакрыўленчаныя дрэвы, якія з шумам нясуцца ўсьлед за дзівосным колам. Яно раптам захопліва выпушчаным крывавым языком Пётру, кідае яго ў вір мітусьні тысячных істотаў і, ускалыхнуўшы душнае паветра, выпускае страшэнны піск. Пётра ляціць прамецьцю ў бязьмежную яміну, дзе яго сустракае пераліўны трэск дзесяткаў бубнаў. Вось дзівоснае кола, набраўшы непамернага росту, рассыпаецца на тысячы дробных чырвоных зорак. Пётра стараецца хутчэй захавацца ад іх, але іхняя гарачыня перамагае ягоныя сілы і ён, зьнямоганы ад духаты, падае на дно яміны.

"Пі-іць... ва-ды..." – раздаецца слабы голас. І Пётра адчувае, як нешта халоднае дакранаецца ягоных вуснаў. Некалькі глыткоў сьцюдзёнае вады вярнулі да яго прытомнасьць. Ён расплюшчыў вочы. Ад жаху ягонае сэрца закалацілася ў грудзёх. Чырвоная зорка на ілбе жаўнера, які стаяў перад ім, дала зразумець, у якіх абставінах ён апынуўся. Пётра намогся прыпадняцца, але калючая боль ізноў прымусіла яго легчы. Калі ў другі раз ён расплюшчыў вочы, каля яго нікога ня было, толькі сьцены брудная закануркі туманна вырысоўваліся перад ягонымі вачыма. Пётра, перамагаючы лом касьцей, прыпадняўся й прысеў на край ложка. Ён намагаўся прыпомніць папярэднія падзеі, але ў гэты час дзьверы закануркі адчыніліся й да яго падыйшоў жаўнер, трымаючы ў руках стрэльбу. Ён паказаў на дзьверы і штурхануў нагою Пётру. Прайшоўшы цёмнымі сенямі, яны ўвайшлі ў невялікі пакой, за сталом якога сядзеў лысы чалавек з залатымі пагонамі на плячах. Пры набліжэньні жаўнера з Пётрам ён прыпадняўся й рухам рукі паказаў на крэсла, якое стаяла насупраць яго. Пётра, адмоўна пакачаўшы галавою, прыпёрся плячом да сьцяны паблізу стала.

– Что, попался, зверушка? – працадзіў той праз зубы і із злосьцю заскрыпеў пяром па паперы.

Пасьля дастаў із століка пісталет і, гуляючы ім, падыйшоў да Пётры.

– Что, узнаёш?

Ручка пісталета дакранулася Пётравай шчакі. Ён нічога не сказаў, толькі мускулы ягоных чэлюсьцяў сударажна захадзілі.

Гэта быў той самы пісталет, які толькі некалькі гадзінаў назад быў у ягоных руках.

– Кто ты такой? – пыхкаючы ад гневу, спытаў лысы .

– Беларус.

– Я цібя не спрашываю аб этом! – ускрыкнуў той пачырванеўшы, – Белару-с-с... хе-хе... Такіх чарцей і знаць не жэлаю. Я цібя спрашываю; аткуда ідзёш, чэм займался в лесу! Бандыт|лі шпіён?!.

Пётра маўчаў. Устрымліваючы гнеў, сыпаў іскры спад надзьмутых броваў, з красцяй касіў вочы на шырокія паго – ны камандзера. Час-ад-часу праблягаў зь усьмешкай на твары па сьценах каморы, на якіх віселі партрэты "важдзей" і абразкі, між якімі асабліва выдзяляўся "Борьба с бандой".

– Ну, чэвож малчыш, – ужо лагадней загаварыў шырокапагоньнік, – ты эцім можэш спасьці свою жызьнь, эсьлі раскажэш всю правду. О какова этрада? Гдзе? Вобшчэ как і что?.. Садзісь і гавары!

Паказаўшы рукою на крэсла, лысы ўтаропіўся зноў у паперы.

Пётра стаяў нярухома. Ягоны твар асьвяціўся хвіліннай усьмешкай, вочы прабеглі наўкола і прыпыніліся на крэсьле. У пакоі нікога ня было, акрамя лысага. Пётра адчуваў, як хваля гневу апаноўвае яго. Рукі самі пацягнуліся да крэсла. Яно мільганула ў паветры і з трэскам апусьцілася на галаву чырвонага камандзера. Катом скочыў Пётра да вакна, ды было позна. Перад ім, як спад зямлі, глянула дыхаючы сьмер – цяй, чорная руля пісталета. Ён бачыў ясную сьмерць, і цяга пажыць перамагла ягоныя намеры. Рукі, як налітыя волавам, падняліся над галавою. І зноў цяжкія ўдары,надбеглых чыр – ванаармейцаў пасыпаліся з усіх бакоў на ягонае цела. Зьбітага яны кінулі яго ў сырую зямлянку ў двары штабнога будынку. Цэлы дзень напужаньня й цяжкія выпрабаваньні перамаглі сілы Пётры; ён, намацаўшы ў кутку горстачку саломы,зваліўся на яе, зьнямоханы стомаю.

x x

Густая цемень, падкрадаючыся з-за вуглоў развалінаў,забаюквала, стомленых дзённай працай, жыхароў разьбітага мястэчка. Час-ад-часу сьвіст салаўя данясецца з бліжэйшага гаю, папросіць піць з жыта перапёлка, ды цяжкія крокі вартаўніка заскрагочаць па каменьнях бруднае вуліцы. Часамі трэсьне сук пад ножкамі зьвярка ў садзе або зашуміць абваленая цэгла, у вадказ пачуецца сонны голас вартаўніка і зноў мёртвая цішыня запануе над мястэчкам. Сярод гэтае бязьлюдніцы зыркае вока начніка магло заўважыць, як цёмная постаць мільком скочыла з аднаго боку вуліцы на другі. Пры набліжэньні шарканьня яна шмыгнула за вугол і зьнікла ў вабдымках ночы-чараўніцы. Праз дзесятак хвілінаў тая самая постаць мігам пераскочыла плот будынку, у якім знаходзіўся штаб чырвонага батальёна і прытаілася за аўтам. Закуткі гэтага двара, як відаць, ёй былі добра знаёмымі. Направа ўзвышаўся насып зямлянкі, у якую часта траплялі сяляне ваколіцы. Зыркія вочы чалавека забегалі па двары й прыпыніліся на вартавым, які, седзячы, мурлыкаў пад нос мелёдыю "Кацюшы". Агляну<u>ўшыся</u> некалькі разоў, чалавек зьнікнуў зноў у цемнаце й вынырнуў ззаду вартаўніка. Лязо нажа бліснула ў ягоных руках і вартаўнік з хрыпам зваліўся на зямлю, хапаючы нямыя гукі адляцеўшае ў вечнасьць "Кацюшы"...

"Дачакаешся, Кацюша, свайго "арла"!.."

За хвіліну скрыпнуў засаў зямлянкі і яе дзьверы схавалі незнаёмага. Сьвятло ліхтаркі асьвяціла нутро і згасла.

x x

Пётра сьпіць непрабудным сном. Яму сьніцца сон, нібы нейкі дух падкрадаецца да яго і, расстаўіўшы свае празрыстыя рукі, стараецца схапіць яго ў свае абдымкі. Ён хоча крыкнуць, толькі замест крыку атрымоўваецца жаласны піск. І вось дух ахапляе рукамі ягоную шыю й цягне за сабою па цёмным калідоры. Раптам у іх пад нагамі праваліваецца грунт і ён, адарваўшыся ад рук духа, ляціць насустрач сьветламу праменю. Крык радасьці вырываецца зь ягоных грудзей.

– Цішэй!.. Вось табе пісталет... Хадзі за мной!...

Пётра ня знаў,што зь ім робіцца. Праціраючы заспаныя вочы,мурлыкаў спрасонку і мацаў заскарлупеўшыя раны на галаве.

– Не палохайся... Я такі, як і ты... Трымай яго...

Халодная сталь пісталета ў ягоных руках прабудзіла ў ім зразуменьне й крыху моцы. Пётра ў гарачцы ўскочыў на ногі, але кружэньне галавы абарвала пад нагамі грунт і ён грымнуўся аб сьцяну зямлянкі. Нехта падхапіў яго пад рукі і ~~дру~~ ён праціснуўся праз дзьверы зямлянкі. Н

Неўзабаве іх прывітаў густой цемнатою шумны бор. Пётра із сьлязамі ў вачох схапіў руку невядомага сябры й прыпаў да яе мокрым тварам.

– Што ты робіш?!. Ня трэба... Вось чаго надумаўся!..Сядай вось тут... Я цябе яшчэ бачыў учора, калі нясла група чырванаармейцаў зьвязанага. Я дагадаўся,што нешта тут ёсьць. Дзед Піліп, які працуе прыбіральшчыкам у штабе батальёну,расказаў мне пад вечар, што ён бачыў, як нейкага маладога хлапца, зьбітага, укінулі ў тую праклятую зямлянку. Ён пачуў ад

жаўнераў, што цябе яны злавілі ў лесе, недалёка ад мястэчка, пры поўнай зброі, нават з картай і компасам. І яшчэ чуў, якбы ты пабіў іхняга камандзера. Дазнаўшыся аб гэтым ад Піліпа, я чакаў надыходу ночы, каб прабрацца ў двор таго будынку. І ноч настала. Пад аховай цемнаты я пералез цераз плот у гэты двор і, прызямліўшы вартаўніка, адшукаў цябе. Цяпер судзі, хто я такі. Я - Лявон-Баравы, выведчык з партызанскага аддзелу, і адначасова працаўнік "Райспалкома" пад другім прозьвішчам. Але гэта цябе менш цікавіць. Чаму сказаў табе аб гэтым - бо спадзяюся, што ты надзейны хлопец.

Пётра чуўся ніякава, але ён не пакрыўдзіўся, схапіў руку Лявона і, сьціснуўшы ў знак падзякі, прагаварыў дрыжачым голасам:

- Вельмі дзякую...

Ен, хвалюючыся, расказаў Лявону, хто ён такі. Расказаў і пра тое, што абавязкова хоча наведаць сваю мясцовасьць і бацькоў, калі яны яшчэ жывыя, а пасьля прыступіць да крывавае помсты.

Лявон схапіў дужымі рукамі Пётру, ад чаго ён аж ёкнуў, і пацалаваў, як роднага брата.

- Я гэта знаў, мой друже! Вось што, сябра па няшчасьці; ты цяпер вельмі змучаны, ведама й галодны, а таму пойдзеш гэтай сьцежкай, якая прывядзе да хацінкі сярод глушы. Гэта будзе вёрстаў сем-восем. Там жыве лясьнік. Ты скажаш, што цябе прыслаў Лявон-Баравы, а там ужо ўсё будзе для цябе. Ен добры чалавек, як гэта гаворыцца- наш з душою. Заблудзіць ты не заблудзеш, бо ўжо віднеецца, а я мушу йсьці на працу, трэба не спазьніцца. Дык бывай, дружа. Спадзяюся, што ты будзеш мсьціць за крыўды свайго народу і прынесеньня табе самому. Беларускія пушчы прывітаюць цябе, як свайго сына.

Яны абняліся як дзеці і зьніклі ў праціleглых кірунках.

Размова зь Лявонам прабудзіла ў Пётры шмат надзеяў і прыліўranейшых сілаў. Развітальныя словы, сказаныя ім, сталіся ягонымі неадступнымі спадарожнікамі ў гэтую ноч. Гадзіны праз тры Пётра ўдыхаў пах сьвежага сена ў пуні лясьніка і слухаў зь цікавасьцяй навіны Налібоцкае пушчы, каторыя адбываліся ў ёй не бяз ведама лясьніка Лаўрэна.

x x x

Пётра ня йшоў, а бег. Пот цурком ліўся з ілба, валасы пасмамі падалі на расчырванелы твар, закрываючы вочы. Ен, страсануўшы галавою, бег наперад. Не зважаў ні нашто вакол сябе, не адчуваў біцьця галінак дрэваў па адкрытым твары.



Унікшы думкамі ў падзеі сорак першага - сорак другога й папярэдніх гадоў, бачыў абмытымі іх сялянскімі сьлязьмі й абсыпанымі праклёнамі тых, каго яны кінулі ў вір сьмяротнага вадавароту. Ен бачыць тыя часы, калі, набухлыя чырваньню хмары пранесьліся над прасторамі краіны, калі тысячы праразьлівых горлаў абвясьцілі пякельным рогатам надыход зьнішчальнае навальніцы й, ускалыхнуўшы валавянае паветра, залілі патокамі сьлёзаў і гарачай крыві нявінны народ. А там пажары... Заслона дыму ў дзень і ў ночы... Стогны... просьбы з праклёнамі... арышты... загады... расстрэлы... Бяссонныя ночы бацькоў... Незабытныя словы маці; суровы із смуткам у вачох твар бацькі... І...яна... Трывожныя іскры ў глыбіні васільковых вачэй, абрыўкі незабытных фразаў зь яе дрыжачых вуснаў... Туманнае развітаньне... А там, цёмная завеса перад вачыма. Нечалавечыя пакрыкі... Няведамая, халодная сваім прыцягам - чужына.

"Ці жывуць яны?!. Так... Яны мусяць жыць... Яны...", - ускрыкнуў нечалавечым голасам Пётра і, ня чуючы пад сабою пакалечаных ног, бег наперад.

Неўзабаве між дрэваў бліснула цёмнае люстэрка возера, над берагам якога драмала ягоная вёска - Куляшкі. Яна была ня тая. Замест вялікае купіны хатаў і дрэваў, спавітых у вянок, на ўзгорку, на берагам Чыжа, цьмяна вырысоўваліся аддзельныя хацінкі з голымі тырчкамі дрэваў.

"Відаць вайна і тут махнула крылом", -падумаў трывожна Пётра і стаў прыглядацца на канец вёскі, дзе павінна была стаяць ягоная хата зь вялікай ліпаю пасярод двара, на якой дзесяткі гадоў праседжвалі даўгадзюбыя буслы.

"Не, зацёмна - нічога ня бачу", - усьцяшаючы сам сябе, прамовіў ён, прыціскаючы руку да грудзей, у якіх нібы хтосьці стукаў малатком.

Ен адразу зрабіў некалькі крокаў назад у глыб лесу. Пасьля хутка павярнуўся і бегам выскачыў зь яго ў канец вёскі. Маленькая канцавая хатка старое бабулі Аўдоцьці, коса пазіраўшы на дарогу як і калісьці, першая прывітала Пётру. Ен хацеў мінуць яе, але з-за вугла бліснула сьвятло крывога вакенца й прыцягнула ягоную ўвагу. Пётра, падскочыўшы да вакна, стаў узірацца праз закопчаную шыбу. Бабуля, стоячы пасярод хаты, пазірала ў кут, дзе віселі абразы й варушыла бяззубым ротам. Стук у шыбу вывеў бабулю з гэтага стану. Яе твар прыпаў да вакна, засланяючы сьвятло.

- Адчынеце, бабуля, - ціха гукнуў Пётра, - я хачу распытаць у вас пра дарогу. Адчынеце, не палохайцеся - свой чалавек.

Бабуля адступіла ад вакна й зашаркала ў сенцах.

Пырвітаўшыся, Пётра ўвайшоў у хату і прысеў на задліку каля стала. Калі ён загаварыў, бабуля бліжэй падыйшла да яго і зірнула яму ў вочы. Пахудзелы твар Пётры і густая шчаціна барады й шчокаў прыдавалі яму від пажылага чалавека.

- Кажаш-жа, чалавеча, каб ты быў маладзейшы, то я сказала-б, што ты ёсьць дзяціна нашага канцавога Міхася... Даруй, Божа, што памянула ягоныя костачкі цёмнаю ноччу...

- Штож! - ускрыкнуў не сваім голасам Пётра, - гаварыце хуценька... Бабулька, родная... Мой бацька... Я - Пётра, сын яго...

Ён схапіў бабчыну галаву рукамі і пацалаваў у чорную шчаку.

Бабулька стаяла з расстаўленымі рукамі, ізь зьдзіўленьнем глядзела на Пётру.

- Пятруська! Ты яшчэ жывы... Беднае дзіцятка, няма каму палюбавацца табою...

Яна,выціраючы хвартухом сьлёзы, прысела каля прыбітага Пётры.

- Ня сумуй, дзетка. Ня трэба ўбівацца. Кажаш-жа, можа яны й шчасьлівейшыя на новай сялібе, пухам ім зямелька,чым мучыцца такім жыцьцём.

Яна доўга расказвала Пётру пра бацькоў, які слухаў, апусьціўшы галаву. Раптам ён ускочыў і проста закрычаў:

- Бабулька, вы мне пра Васіка нічога не сказалі, пра брацiка майго, дзе ён і што зь ім сталася!

- Васік, кажаш-жа! А Васік цяпер маладзец, ён і да мяне часамі заглядае, але на хвілінку толькі, бо я яго выпраўляю хутчэй. Ён тады ўцёк, калі забралі Міхася, бацьку твайго,маскалі. Кажаш-жа, ён слаўны хлопчык - партызанам цяпер зрабіўся...

- Дык ён жывы! Ах, бабулька!.. Васік, мой брат, жывы!

Ён схапіўся зь месца і падыйшоў да парогу.

- Скажаце,бабулька, дзе яны пахаваныя?

- Куды ты, Пятрусёк, ня трэба табе хадзіць туды, а то, кажаш-жа, чаго добрага...

- Бабулька, а дзе Марыська?!

- Якая? Гэта Хведзькава Марыся? Сумная й пра яе вестачка, дзетка. Яе маскалі, кажаш-жа, забралі, і ўжо два гады няма вестачкі. Гэтак-жа бацькі ўбіваюцца па ёй.

Пётра, скрыгануўшы зубамі, сунуў руку ў кішэню.

- Дык слухай, дзетка. Мама твая пахавана на ўзгорку, сярод вёскі, там цяпер абгароджана. А тата і Насьця каля лесу , блізка возера,із другімі суседзямі. Кажаш-жа, на бацькаву й сястрыну магілку можаш зайсьці і адведаць. Іхнія магілачкі ляжаць побач. Але, кажаш-жа, ня йдзі на вёску пад матчыну, ўжо разьвідняецца. Паслухай, Пятруська, што табе бабка кажа.



- Бывай, бабулька, я яшчэ некалі наведаю вас.

- Куды, Пятрусёк! Можа хоць зьеў-бы чаго-небудзь?

Пётра апошніх слоў не пачуў. Ен выскачыў з хаты і зьнік між папялішчаў. Апавяданьне бабулькі мучыла яго. Сьціснуўшы кулакі, ён паўтараў словы бабкі: "Маці, сынку, забілі немцы год пасьля твайго ад'езду. Тады й вёску спалілі. А два гады назад, калі прыйшлі маскалі, то яны забралі бацьку й сястру Насьцю. Доўга зьдзекваліся, як і над другімі, дапытваючыся, дзе сын, а там адвялі ў лес і пастралялі. Пасьля двух дзён пахавалі іх нашы мужыкі..."

Вёска спала. Пётра мінуў некалькі няспаленых хатаў і стаў перад плотам магільніка, зарослага дзікаю травой. Ён адшукаў дзьверцы і, увайшоўшы, пачаў прыглядацца да крыжоў. Ня маючы магчымасьці разабраць змытых надпісаў, ён сумнымі вачыма абвёў магілкі й падыйшоў да слупа, які стаяў сярод кучкі магілаў. "Здесь покоится прах зверски убитых крестьян фашистскими оккупантами" - прачытаў ён тлусты шрыфт словаў.

"Бывай, мама!" - абвёўшы яшчэ раз магільнік вачыма,ціха сказаў Пётра і, стрымліваючы сьлёзы, пайшоў загуменьнем да лесу. Тут, адшукаўшы магілкі бацькі й сястры, ён доўга сядзеў у глыбокім задуменьні. Зара даўно ўжо абхапіла сваім румяным крылом усход і гуляла пераліўнымі хвалямі з гладзьдзю спакойнага возера. Пётра ўзьняў галаву і, нібы сонны, прыпадняўся,і нахіліўся над магілкай бацькі. Правёў позіркам па пнёх задуманых соснаў, нібы ў іх пытаючыся рады. Увагу яго прыцягнула прыбітая да сасны дошка з надпісам: "Такова участь врагов народа". Як каршун, падляцеў ён да дошкі і раскрышыў яе. Больш ён нічога ня мог зрабіць.

"Нас яшчэ двое, каб адплаціць за вашую сьмерць.",- прашаптаў ён і падаўся ўглыб шумлівага бору.

Як няпрытомны, ішоў ён уперад бязь ніякае мэты.

Сонца ўзыйшло. У золаце ранішніх праменьняў купаюцца вяршыні танкаствольных соснаў, апошнія акорды начное музыкі якіх адплываюць у бязьмежную далячыню сіняга, без адзінае хмарынкі, неба, напаўняюцца новымі - песьняў белага дня.

Пётра йшоў. нарэшце, схамянуўшыся, ён затрымаўся. Павярнуўшыся на ўсход, ён падняў заціснутыя кулакі ўгару, быццам грозячы нявідомаму ворагу."Кроў за кроў!" - вырвалася зь ягоных грудзей. " ... за кроў!" - глухім рэхам адказала пушча.

=====-oOo-=====

Цімох В.

## Вуглякопы

Агні рухомыя мігаюць,
Агні жывых фігур у дзень.
Густую цемру прарэзае
Жаўтлява-зьнічкавы прамень.
        Хоць дзень чарней вугальнай ночы,
        Хоць большай цемры не знайсьці,-
        Спаткаць тут можна тых, што крочаць
        Увесь час наперад у жыцьці.
Прарэзаць пласт вугля густога,
Прабіць тунэль да новых пліт.
Ну й што-ж! Праз гэткую дарогу
Прыйдуць яны да мэт сваіх!

шшшХшшш

А.Будзіч

## Дзяўбі!

Зьмяшаўшыся з вуглём, ляглі
Глыбы цемені густыя, ліпкія.
Каменьне моўчкі сьлязой усхліпвае.
Мо' жаліцца на штось зямлі?
І ціха, ціха, як...
        Не! Ўжо рушыла!
Ускалыхнулася кімсьці ўзварушана,
Уздрыгнула у трывожным сьне
                цемень.
Глядзі!
    Вунь ідуць!
    Гэй, хто там?
            Чуеце?!
Чаго,двуногія, вы тут вандруеце?
Куды нячысьцікі вас нясуць?!
А там - на нявідомых хвалях
Ўзьнімаюцца то ўверх, то ўніз,
Плывуць гуськом адзін, другі,
І набліжаюцца з аддалі
                вагеньчыкі.
Ня крычы; не спалохаеш -
У іх вачох зацятасьць сьвеціцца.
Жывой ілою усьцены ўрэжуцца,
І задрыжыць зямля, завохкае.



І бязьлітасна нутро
Старое зямлі крышыць,
Упарта, безь перадышкі
Дабіваецца ў ядро
            сталь.
А ў рогаце двух стыхіяў
Чуваць;
        "Дзяўбі! дзяўбі! - адчыніцца.
        Бо цяпер хто спыніцца,
        Тому будуць вякі ліхія!"
-Першай сутычкі кончыўся гром.
На нявідомых хвалях -
        То ўверх, то ўніз,-
                замільгалі
І паплылі
    адзін, другі
        гуськом
            вагеньчыкі.
Зьмяшаўшыся з вуглём, ляглі
Глыбы цемені, густыя, ліпкія.
Каменьне моўчкі сьлязой усхліпвае.
Мо' жаліцца на штось зямлі?

=====================xxxxxxx X xxxxxxx=================
xx xx
xxxx
x

## ВІТАЕМ СЯБРОЎ АБСАЛЬВЭНТАЎ !

17.4.г.г. Першая Беларуская Гімназія Ймя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе (Амэрыканская зона Нямеччыны) абыходзіла сваю вялікую ўрачыстасьць - трэйці выпуск матурыстых. Ізноў 5 асобаў, сябры; Кіпель В., Лябёдкін В., і сяброўкі; Харытончык О., Савёнак З.; Ганчарэнка Г. атрымалі матуральныя пасьведчаньні - гэтую зброю, што адкрывае шлях у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Як мы даведваемся, сяньня 4-ох зь іх едуць ужо на ўнівэрсытэт здабываць вышэйшую асьвету.

Жадаем ім як найлепшых посьпехаў у іхняй далейшай навуцы й барацьбе з жыцьцём. Вітаем, і адначасна моцна верым, што ў хуткім часе сустрэнемся разам зь імі студэнтамі.

Пішучы гэтыя словы, мімаволі насоўваецца думка аб тых мужных, працавітых кавалёх, якія выкавалі гэтую зброю ужо не аднаму з нас. Мімаволі ўсплываюць тыя цяжкія ўмовы, у якіх працуюць гэтыя людзі - настаўнікі Беларускае Гімназіі Ймя Янкі Купалы. Яшчэ раз хочацца ад усяго сэрца падзякаваць ім за той каштоўны скарб, які яны далі нам, нашым сябром і, верым, дадуць яшчэ іншым.

Хай дапаможа Вам Бог у Вашай ахвярнай працы дарагія спадары настаўнікі,а Вам, сябры абсальвэнты - у далейшым жыцьці й навуцы!

Сябры з "Дванаццаткі"

ЗВАРОТ ШТАНДАРОВАГА ШТАНДАРУ "БАВАРЫЯ"
ДА БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ У АНГЕЛЬШЧЫНЕ.

Сябры й Сяброўкі!

Заснавальнік скаўтынгу, Бодэн-Паўэль гэтак пісаў 40 гадоў назад:"Спадзяюся, што кожны ў той ці іншы спосаб хоча служыць свайму краю. Зрабіць гэта лёгка - стацца скаўтам".

Гэтыя словы ўжо даўно апраўдалі сябе - скаўты запраўды паказалі, як трэба служыць свайму народу й краю, як працаваць для ягонай карысьці, як за яго змагацца.

Наша скаўцкая арганізацыя гэтаксама прайшла ўжо не малы шлях. На Бацькаўшчыне, ня гледзячы на перасьледы, моладзь задзіночвалася пад скаўцкім сьцягам, каб вучыцца, як быць найбольш карысным для свайго народу. І ненадарма - гэта арганізацыя дала нашай Бацькаўшчыне шмат ахвярных сыноў і дачок, якія ў змаганьні за ейную незалежнасьць не пашкадавалі аддаць навет жыцьцё.

Апынуўшыся на выгнаньні, Беларускі Скаўтынг далей праддаўжае сваю працу; у Нямеччыне ён зьяўляецца адным з наймацнейшых. Прымаючы ўдзел у розных міжнародных скаўцкіх змаганьнях, імпрэзах, зьлётах і г.д., нашы скаўты робяць там шмат карыснага нашай нацыянальнай справе; яны знаёмяць сьвет з нашым народам, зь ягоным імкненьнем да незалежнасьці.



І бязьлітасна нутро
Старое зямлі крышыць,
Упарта, безь перадышкі
Дабіваецца ў ядро
сталь.
А ў рогаце двух стыхіяў
Чуваць:
"Дзяўбі! дзяўбі! - адчыніцца.
Бо цяпер хто спыніцца,
Тому будуць вякі ліхія!"
Першай сутычкі кончыўся гром.
На нявідомых хвалях -
То ўверх, то ўніз,-
зямільгалі
І паплылі
адзін, другі
гуськом
вагеньчыкі.
Зьмяшаўшыся з вуглём, ляглі
Глыбы цемені, густыя, ліпкія.
Каменьне моўчкі сьлязой ускліпвае.
Мо' жаліцца на штось зямлі?

========================xxxxxxxx X xxxxxxxx==================
xx xx
xxxx
x

ВІТАЕМ СЯБРОЎ АБСАЛЬВЭНТАЎ !

17.4.г.г. Першая Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе (Амэрыканская зона Нямеччыны) абыходзіла сваю вялікую ўрачыстасьць - трэйці выпуск матурыстых. Ізноў 5 асобаў, сябры: Кіпель В., Лябёдкін В., і сяброўкі: Харытончык О., Савёнак З., Ганчарэнка Г. атрымалі матуральныя пасьветчаньні - гэтую зброю, што адкрывае шлях у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Як мы даведваемся, сяньня 4-ох зь іх едуць ужо на ўнівэрсытэт здабываць вышэйшую асьвету.

Жадаем ім як найлепшых посьпехаў у іхняй далейшай навуцы й барацьбе з жыцьцём. Вітаем, і аднача́сна моцна верым, што ў хуткім часе сустрэнемся разам зь імі студэнтамі.

Пішучы гэтыя словы, мімаволі насоўваецца думка аб тых мужных, працавітых кавалёх, якія выкавалі гэтую зброю ужо не аднаму з нас. Мімаволі ўсплываюць тыя цяжкія ўмовы, у якіх працуюць гэтыя людзі - настаўнікі Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы. Яшчэ раз хочацца ад усяго сэрца падзякаваць ім за той каштоўны скарб, які яны далі нам, нашым сябром і, верым, дадуць яшчэ іншым.

Хай дапаможа Вам Бог у Вашай ахвярнай працы дарагія спадары настаўнікі, а Вам, сябры абсальвэнты - у далейшым жыцьці й навуцы!

Сябры з "Дванаццаткі"

ЗВАРОТ ШТАНДАРОВАГА ШТАНДАРУ "БАВАРЫЯ"
ДА БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ У АНГЕЛЬШЧЫНЕ.

Сябры й Сяброўкі!

Заснавальнік скаўтынгу, Бодэн-Паўэль гэтак пісаў 40 гадоў назад:"Спадзяюся, што кожны ў той ці іншы спосаб хоча служыць свайму краю. Зрабіць гэта лёгка - стацца скаўтам".

Гэтыя словы ўжо даўно апраўдалі сябе - скаўты запраўды паказалі, як трэба служыць свайму народу й краю, як працаваць для ягонай карысьці, як за яго змагацца.

Наша скаўцкая арганізацыя гэтаксама прайшла ўжо не малы шлях. На Бацькаўшчыне, ня гледзячы на перасьледы, моладзь задзіночвалася пад скаўцкім сьцягам, каб вучыцца, як быць найбольш карысным для свайго народу. І нѐнадарма - гэта арганізацыя дала нашай Бацькаўшчыне шмат ахвярных сыноў і дачок, якія ў змаганьні за ейную незалежнасьць не пашкадавалі аддаць навет жыцьцё.

Апынуўшыся на выгнаньні, Беларускі Скаўтынг далей праўдзжае сваю працу; у Нямеччыне ён зьяўляецца адным з наймацнейшых. Прымаючы ўдзел у розных міжнародных скаўцкіх змаганьнях, імпрэзах,зьлётах і г.д., нашы скаўты робяць там шмат карыснага нашай нацыянальнай справе; яны знаёмяць сьвет з нашым народам, зь ягоным імкненьнем да незалежнасьці.



Сябры! Не аставаймася і мы збоку! Задзіночыўшыся ў нашую нацыянальную скаўцкую арганізацыю , мы зможам тут зрабіць ня менш, як нашы сябры ў Нямеччыне. Хай і тут загрыміць наш малады кліч:

Да змаганьня за Праўду

Напагатове !

(-) А.Бута
Штандаровы

## СКАЎТЫНГ ДЛЯ ХЛАПЦОЎ.

Да чытача.

Сорак гадоў таму зьявілася першае выданьне кніжкі "Скаўтынг для хлапцоў" ("Скоўтінг фор бойс"), напісана заснавальнікам скаўтынгу Робэртам Бодэн-Паўэлем. Міліёны хлапцоў чытаюць яе ад сарака гадоў. За гэты час разыйшлося больш за паўмільёна экзэмпляраў толькі ў ангельскай мове. Апрача таго яна была перакладзена амаль на ўсе мовы сьвету.

Ня маючы магчымасьці перакласьці й выдаць асобнай кніжкай "Скаўтынг для хлапцоў", мы будзем перакладаць і падаваць нашым чытачом паасобнымі часткамі. Пры першай магчымасьці пастараемся яе выдаць асобным выданьнем.

Беларускі чытач і скаўцкі інструктар у шматлікіх выпадках павінен пры чытаньні і стасаваньні матар'ялу з гэтае кніжкі ангельскія прыклады замяняць беларускімі. Зразумела, што калі ангельскі скаўт адданы свайму народу й Імпэрыі,калі паліцыянт ёсьць на службе караля - то беларускі скаўт ці жаўнер - сваёй Бацькаўшчыне, свайму Народу. У перакладзе спатыкаецца шмат прыкладаў, узятых зь гісторыі розных народаў. Беларускі інструктар павінен дапоўніць яго, падаючы сваім хлапцом яшчэ шмат іншых прыкладаў, узятых з нашае гісторыі.

### Як працуюць скаўты.

Спадзяюся, што кожны ў той ці іншы спосаб хоча служыць свайму краю. Зрабіць гэта лёгка - стацца скаўтам.

Скаўт ці выведнік - гэта жаўнер, які адзначаецца сваім спрытам і адвагаю, і таму выбіраюць яго, каб патраляваў перад фронтам арміі й даведваўся, дзе ёсьць вораг, а пасьля за'яўляў свайму камандзеру.

Але апрача скаўтаў, якія нясуць службу на вайне, ёсьць таксама скаўты супакою, г. зн. такія людзі, што ў нармальных, мірных часох выконваюць працу, для каторае патрэбныя такія-ж здольнасьці. Гэта старожа, якая стаіць на межах усіх частак дзяржавы. Трапэры паўночнай Амэрыкі, паляўнічыя Цэнтральнай Афрыкі, піянэры, дасьледнікі, місіянэры Азіі, бушмэны й пастухі Аўстраліі, паліцыі паўночназаходняй Канады й Паўднёвай Афрыкі – гэта ўсё скаўты супакою; выдатна вышкаленыя ва ўсіх скаўцкіх спраўнасьцях. Яны ўмеюць жыць у джунглі, усюды змогуць прасунуцца, чытаюць значэньні кожнага найдрабнейшага знаку ці сьледу стапы; сільныя й адважныя, гатовыя супрацьставіцца кожнай небясьпецы; заўсёды гатовыя памагчы сваім сябром. Яны ўмеюць кіраваць сваім жыцьцём і ў кожнай хвіліне гатовы аддаць яго бязь хістаньня, калі ў гэты спосаб могуць прыслужыцца бацькаўшчыне. Яны вракуцца ўсяго; выгады, прыемнасьці, абы выканаць свой абавязак. Робяць гэта не дзеля асабістых мэтаў, а дзеля таго, што ўважаюць гэта за свой абавязак перад каралём і грамадзтвам.

Гісторыю Брытанскае Імпэрыі ад сотак гадоў да сяньняшняга дня твораць шукачы прыгодаў, падарожнікі і дасьледнікі - авангард народу. Рыцары караля Артура, Рышарда Львінае Сэрца й Крыжоўцы разьнесьлі славу мужнасьці брытанскага народу ўва ўсе куткі сьвету.

Ралей, Дарке і кап. Джон Сміс, жаўнеры й маракі з часоў каралевы Альжбеты, змаглі з добрымі вынікамі зьмерыцца зь нязнанымі небясьпекамі чужых мораў, як і зь небясьпекамі з боку магутных ворагаў і, дзякуючы таму, здабылі й утрымалі новыя краі для нашага каралеўства. Адкрылі новыя землі для нас; кап.Кук у Аўстраліі, лёрд Кляйв у Індыі. Онекс, Бекэр і Лівінгстон прабівалі дарогу праз дзікія лясы й пустыні Афрыкі; Давіс, Франклін і Рос здабывалі краі й сьнягі Арктычных краёў, а нядаўна Скот і Шакельтон аддалі жыцьцё на дасьледзе ў Антрактыдзе. Вось некалькі прозьвішчаў спасярод сотак перадавой старожы нашага народу, людзей, якія спрадвеку да сяньня пашыраюць вялікае ймя й магутнасьць Брытаніі на цэлым сьвеце.

Сярод гэтага авангарду можна знайсьці шмат імёнаў жанчынаў; Грацэ Дарлінг выстаўляла на небясьпеку сваё жыцьцё, каб ратаваць разьбіткаў карабля; Флёрэнцэ Найцінгль, санітарная сястра з часоў крымскае вайны; Кінгелей, дасьледніца краёў Афрыкі й Аляскі, і шмат місіянэрак і санітарных сёстраў усіх частак Імпэрыі. Адсюль выснаў, што скаўтынгу могуць вучыцца ў роўнай меры з хлапцамі і дзяўчаты, і здабыць здольнасьць выконваць карысную працу на сьвеце.



Гэта надзвычайнае жыцьцё, але ня кожны, каму яно спадабаецца можа адразу ўцягнуцца ў яго. Перад гэтым трэба адпаведна прыстасавацца. Найлепшых вынікаў дасягнуць тыя, што зжыліся із скаўтынгам ад малодшага веку.

Скаўцкае ўзгадаваньне ўва ўсіх галінах дае выдатныя рэзультаты, ці ў войску, ці ў цывільным жыцьці. Сэр Вільям Крокс, фізык, уважае, што яно карыснае для чалавека, які прысьвяціўся навуцы й ня мае магчымасьці карыстаць шмат із сьвежага паветра й сонца. Сэр Ляндэр Брантон зьвярнуў ўвагу на тое, што для лекара, асабліва хірурга, неабходна ўмець спасьцерагаць дробныя знакі й улавіць іх значэньне, а гэтага выдатна вучыць скаўтынг.

У далейшым хачу паказаць і навучыць вас, як навучыцца скаўтаваць самому і карыстаць з гэтае навукі дома.

Усё гэта лёгка й вельмі цікава, калі ў гэта добра ўцягнуцца. Але найлепш адразу запісацца ў скаўты.

/Працяг будзе/

= === о ===

## НАШЫ СКАЎТЫ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

### Новая скаўцкая дружына.

(СІС) 23-га сакавіка г.г. адбылося заснаваньне новай скаўцкай дружыны ў лягеры Зэедорф каля Брэмэну (Ангельская зона). Кандыдаты на скаўтаў ужо ад даўжэйшага часу вялі інтэнсыўную падрыхтоўку, сваімі сіламі наладзілі скаўцкую сьвятліцу ў лягеры /украінскім/ і яе ўпрыгожылі, арганізавалі невялічкую бібліятэчку.

### Паштоўкі з нагоды 30-ых угодкаў Акту 25-га Сакавіка.

(СІС) Галоўная Кватэра ЗБСЧ выдала адмысловую паштоўку з нагоды 30-ых угодкаў абвешчаньня Акту 25-га Сакавіка, якая прадстаўляе сымбалічнае разарваньне путаў няволі нашым Народам 25 сакавіка 1918 году.

### 40-выя ўгодкі сусьветнага скаўтынгу.

(СІС) У гэтым годзе прыпадаюць 40-выя ўгодкі сусьветнага скаўцкага руху. Усе арганізацыі скаўтаў на цэлым сьвеце адзначаюць іх зь вялікай урачыстасьцяй. 7-га сакавіка г.г. гэтыя ўгодкі ўрачыста адзначылі й нашыя скаўты Штандару "Баварыя" ў Міхельсдорфе.

### Новы скаўцкі падручнік.

(СІС) Выйшаў з друку падручнік для скаўтаў "Скаўцкі Спадарожнік", пераклад з ангельскага, бач.80, із шматлікімі рысункамі ў тэксьце. Выданьне літаграфічнае Галоўнае Кватэры.

Прысяга скаўтаў 6-га Сьцягу.

25-га сакавіка г.г. адбылося ўрачыстае злажэньне прысягі й уручэньня сьцягу скаўтам 6-га Сьцягу ў Віндзішбэргэрдорфе.

"Цяпер мы таксама, як старэйшыя скаўты, будзем працаваць, як зможам, не шкадуючы сілаў, бо ведаем, што працуем ня толькі на сваю карысьць, але й для нашага Народу й Бацькаўшчыны", - пішуць скаўты свайму былому кіраўніку.

Горача вітаем новых сяброў у нашай дружнай скаўцкай сям'і й жадаем ім найлепшых посьпехаў у працы на карысьць Бацькаўшчыны.

Скаўцкая праца ў Міхельсдорфе.

Праца кіпіць. За кароткі час адбылося некалькі гульняў, канцэртаў, сяброўскіх вечароў. Скаўты 1-га Хлапцоўскага й 2 Дзяўочага Сьцягоў рыхтуюцца да міжнародных спаборніцтваў, якія адбудуцца 25-га красавіка ў Рэгэнсбурзе.

Жадаем, каб нашы сябры й сяброўкі і на гэты раз выйшлі пераможцамі.

18.4. адбылося змаганьне за дыплём скаўцкае футбольнае дружыны "Маланка" з дружынай нямецкай. Змаганьне скончылася вынікам 0:6 у карысьць "Маланкі". Вітаем!

18.4. Адбылося ўрачыстае адкрыцьцё летняга спартовага сэзону пад кіраўніцтвам спортмайстры сп. Мухі. Былі наладжаныя спартовыя змаганьні з узнагародамі.

Сустрэча Галоўнага Скаўта ў Гамбургу.

У канцы сакавіка г.г. адбылася сустрэча Галоўнага Скаўта лёрда Роўэлэна з скаўтамі розных нацыянальнасьцяў. У сустрэчы брала ўдзел таксама і беларуская група скаўтаў. Тут зьмяшчаем ўрывак зь лісту ўдзельніка: "На гэтым зьлёце мелі ся быць усе нацыянальнасьці Д.П., Ангельцы, Амэрыканцы, Французы, Нарвэгі. Аднак зь невядомых прычынаў ня было Літоўцаў, Расейцаў і Палякоў. Кожная нацыянальная група мела падрыхтаваны для лёрда падарунак. Украінцы падаравалі вылітага з металю Сьв. Юр'я на коні, Латышы - драўляную місачку ў выглядзе папяльнічкі, пасярэдзіне якое стаяў кубачак зь дзьвюма кветкамі; Ангельцы - каробачку на цыгаркі. Мы падрыхтавалі альбом, вокладкі якога былі выложаны каляровай саломай; на чорным фоне - прыгожы беларускі арнамэнт, а пасярэдзіне - вялікая скаўцкая лялейка. Альбом быў выкананы вельмі мастацка спадаром Сільвановічам, кіраўніком слаўнае беларускае майстроўні "Раніца". Альбом быў запоўнены фатаграфіямі з нашага скаўцкага жыцьця на чужыне, пачынаючы



аж з Рэгэнсбургу, фатаграфіі ўсіх дыплёмаў і ўсіх сьцягоў з Амэрыканскае зоны.

У вольныя хвіліны цэнтрам увагі былі Беларусы - кожны вечар зборкі былі ля нашага шатра.

На разьвітальным вогнішчы, калі мы засьпявалі вясёлую "Бабу Еўку", дык усе іншыя, а асабліва ангельскія й амэрыканскія скаўты, дружна падхоплівалі "го-го-го!".

На заканчэньне вогнішча Ангельцы й Амэрыканцы прапялі Беларусам "Уайтроутэнія, гуд найт!"

==========================================

Успаміны зь летняга лягеру...



Архіп Папліска



### Уступ

Надумалася Дванаццатка пісаць дзёньнік. Бо й як-жа інакш – Дванаццатка ёсьць, а адкуль яна ўзялася і што робіць, дык ніхто толкам і ня ведае. Яшчэ калі гэта была проста дванаццатка (з малое літары) дык у гэтым бяды вялікае ня было – каму тады было цікава, што недзе па сьвеце бадзяецца дванаццаць сарвіхвостаў. Ды мала хто па сьвеце бадзяецца?

Гэтак было раней. Але цяпер ужо ня тое! Праўда, мы й самі зьдзівіліся, калі пачулі, што мы ўжо не абы што. Ды ня толькі не абы-што, мы – слаўная Дванаццатка (зь вялікае літары)!!! Але бачу, некаторыя чытачы дзівяцца. Вы ня чулі пра гэта? Цяпер ужо наша чарга дзівіцца; выходзіць, вы не займаецеся палітыкай?! Бо калі-б вы ёю займаліся, дык напэўна-б чыталі газэты, а каб вы чыталі газэты, дык напэўна-б чулі пра слаўную Дванаццатку. А мы дзівімся таму, бо дальбог ня ведалі, што ёсьць яшчэ такія, што ў палітыку ня лезуць. Але цьфу-цьфу – сеў пісаць дзёньнік, а залез у палітыку (такія часы насталі...).

Ну дык вось; калі пачулі мы, што мы ўжо слаўныя, дык мінімум на чатыры інчы пабольшалі. (Выбачце, што мерым на інчы – яно й нам ня вельмі зручна, але што зробіш; наш меншы Кудлаты, які прэтэндуе на краўца, забыўся пры выезьдзе зь Нямеччыны свайго цэнтымэтра...) Вы думаеце, пэўна, што мы цяпер вельмі высокія? Нічога падобнага! Што пабольшалі, дык гэта праўда, але ўшыркі, ці, кажучы панавуковаму – у дыямэтры. Некаторыя чытачы захочуць прыпісаць гэта ангельскім прадуктам, але сама Дванаццатка ўпэўненая, што ўсё нарабіла слава.

Ну, але пара брацца й за справу.

Спачатку на зямлі ня было нікога. Адным словам – пуста і глуха, нават палітыкай ня было каму займацца. Пасьля Бог стварыў Адама. Дык вось тыя, якія маюць якія-небудзь



прэтэнзіі да Дванаццаткі, хай лепш адразу зварочваюцца да Адама – ён вінаваты. "Чаму?" – папытаецеся вы. Вельмі проста; каб ня было Адама, ня было-б і Дванаццаткі. Праўда, буслы былі й да Адама, але тады яны дзяцей не насілі – ня было каму няньчыць.

Дык вось, як чуеце, Дванаццатка й зьявілася на гэты сьвет толькі таму, што на ім зьявіўся Адам. А як гэта выйшла, слухайце далей.

Жыў сабе Адам на сьвеце і нават у вус ня дзьмуў. Ды чаму ня жыць; рабіць ня трэба, есьці хапае. Але самае галоўнае гэта тое, што яму ня трэба было купонаў на вопратку – ён хадзіў у Адамавым касьцюме, які ня зношваецца ніколі.

І, напэўна, жыў-бы ён так і да гэтага часу, каб не панесла яго нялёгкая ў чужыя яблыкі. І трэба-ж было дадумацца; сваіх поўны сад, а ён у чужыя! Гэткая ўжо натура чалавека... Пэўна-ж, каб знаў Адам, колькі з-за гэтых яблыкаў бяды будзе, дык можа й не палез-бы. Праўда, кажуць, што ў гэтым ня так вінаваты Адам, як Эва; гэта-ж яна падгаварыла лезьці ў яблыкі. Гэтак заўсёды; дзе чорт ня можа, там бабу пашле...

Як-бы там ні было, а прыйшлося нашаму Адаму выбірацца з казённых харчоў і йсьці на прыватку. Уявіце сабе ягонае становішча; у кішані ні шылінга, а з рэчаў – толькі Адамаў касьцюм. А ўсё Эва! Але што зробіш – сталася. Заплакаў горка Адам і пайшоў бадзяцца па сьвеце. Пайшла й Эва – наварылі разам кашы, дык прыйшлося разам і есьці. Ці доўга яны бадзяліся так, дакладна няведама. Урэшце яны апыніліся на Беларусі. Тут ім спадабалася; мала горш, як у раі! Вось і пастанавілі яны асесьці тут на стала. Узяўся Адам за гаспадарку; першым чынам збудаваў хату, паставіў хлявы, гумно. А пасьля – араць, сеяць, касіць, – працы хоць адбаўляй. І Эве таксама хапала; тут і есьці зварыць трэба, і скаціну дагледзець, ды й на поле ўсьпець – лён палоць. А восенскімі вечарамі, запаліўшы лучыну, садзілася яна за кросны. Трэба сказаць, спрытная была дзяўчына, гэтая Эва – як пачне ткаць, дык чаўнок носіцца, што вачыма за ім не пасьпееш! А палатно якое выходзіла! Наткаўшы, пашыла яна Адаму порткі й сарочку, бо як не кажэце, а ў Адамавым касьцюме зімой даволі сьцюдзёна. Порткі, як порткі, але сарочка выйшла на славу; нездарма сядзела над ёй Эва цэлы тыдзень вышываючы. Як апрануў яе Адам, ды да гэтага яшчэ вышываным паяском падперазаўся, дык Эва аж войкнула; яна дасюль і не заўважыла, што Адам – такі прыгожы. А як памазаў ён сваю кудлатую русую чупрыну маслам ды прычасаўся, дык яна й вачэй не магла адарваць ад яго. Што тут доўга казаць – закахалася па вушы. Што рабіць ? Ня скажаш-жа яму проста з мосту гэткую далікатную рэч. Кінула

ся яна тады на хітрыкі. Давай каля яго ласкавей хадзіць;ужо ён не Адам, а Адамка, або навет і Адамочак. Мала гэтага - кожны дзень яна яму лішнюю скварку знойдзе, яешню ўсмажыць ці аладак напячэ. Адным словам - кожны дзень нядзеля. Адам паядаў і скваркі, і яешні, і аладкі, але справа ад гэтага не мянялася - адносна гэтага недагадлівы быў хлапец. АА Эва сохне; нялёгкая гэта справа - каханьне без узаемнасьці... Урэшце, наважылася яна папрабаваць апошнюю раду. Не магла яна забыцца, што ўсю бяду зрабіла сарочка, што яна вышыла для Адама. Але-ж клін клінам выбіваюць! Вось і пастанавіла яна гэткім самым чынам забіць клін і ў Адамава сэрца. Выткала сабе яна спадніцу, ды такую ўзорыстую, што на цэлым сьвеце й цяпер такое ня знойдзеш, хіба толькі на Беларусі. А сарочку вышыла шоўкам так, што куды там прыраўняцца Адамавай! І вось у нядзелю, калі Адам яшчэ хроп, што аж скварада на прыпеку падскаквала, устала яна раненька, ды давай прыбірацца. Апранула новую спадніцу, сарочку, а на галаву хустачку вышытую каласкамі завязала. Ну, прыбралася, распаліла ў печы й чакае, калі ўстане Адам. Але дзяўчына дзяўчынай: як-жа вытрываць каб не паглядзецца ў люстэрка! Наліла яна аладку, паставіла ў печ, а сама да люстэрка. Як глянула, дык і сама зьдзівілася. Ня тая Эва дый годзе! Давай яна паварочвацца перад люстэркам на ўсе бакі: то зубкі пакажа, то падмірагне. Мусіць доўга-б гэта трывала, каб не заўважыла яна, што поўная хата дыму. Кінулася яна да печы, а там ужо замест аладкі адно вугальле. Хапілася выцягваць, ды ведама пасьпех - скварада бразь аб зямлю! Тут ужо прачнуўся й Адам. Хацеў ён толькі забурчэць на Эву, што спаць не дае, але як глянуў на яе , дык і астаўся так з адчыненым ротам. Працёр ён вочы кулакамі, зноў глянуў. А Эва й нібытата - ужо нясе яешню на стол. Адам з хваляваньня разгубіўся зусім, аж боты пераблытаў.Апрануўся ён так-сяк і сеў за стол. Але бяда - замест у скварады, дык усё на Эву паглядае. І тут здарылася з Адамам нечаканая рэч: першы раз у сваім жыцьці ня зьеў яешні. Тут ён і зразумеў, што закахаўся.

З гэтага дня пачаў сохнуць і Адам. І так можа-б яны сохлі абое й да сяньняшняга дня, каб не вясна. Вось у вадзін вечар сядзіць Адам на прызьбе й сумуе. А на дварэ ціха, толькі жабы ў балоце крэкчуць ды ў кустох салавей заліваецца.Гэтак ад гэтага ўсяго стала цяжка Адаму, што хоць ты зараз бяжы й тапіся. А калі яшчэ Эва, паліваючы кветкі, зацягнула "Ой сокал, мой сокал", дык ня вытрываў: пабег да яе й прызнаўся ў каханьні. Як там было далей, ня ведама, але ад гэтага вечара сохнуць яны перасталі - у Адама зьявіўся такі апэтыт,што Эва не спраўлялася яешні пячы. А за тыдзень яны ўжо гулялі вясельле.

(Працяг будзе)






Менск.

Міністар "Пішчапрому" на Беларусі, каб палепшыць "шамоўку" у сталовых сталіцы, выдаў экстра загад да ўсіх пеўняў БССР.

Апошні сказ загаду гучыць так: "Нясіся, а то галава з плеч!"

Галівуд.

Галівудзкія жанчыны ніяк ня могуць пагадзіцца, што першы чалавек на зямлі быў мужчына. "Ці пайшоў-бы Адам у парк, хоць-бы ён быў навет і райскім, каб там на яго ўжо не чакала Эва?" - даводзяць яны.

Тамворт.

У гэтай мясцовасьці "Дванаццатка" натрапіла на вялікія залежы каменнага вугалю. З удзячнасьці ангельскія ўлады дапусьцілі яе да беспасярэдняе эксплёатацыі гэтых залежаў.

Як мяркуюць аўтарытэтныя колы, гэта значна прысьпешыць выхад Брытаніі з пасьляваеннага крызысу.

Зямля .

Сюды прыбылі прадстаўнікі зь Міжплянэтнае Рады дзеля выдзяленьня Беларусаў з нацыянальных груп. Прадстаўнік Рады, між іншым, заявіў: "Отуж я ня думаю, што ў вашай нацыянальнай групе ўсе несьведамыя. Напэўна ёсьць таксама і людзі, якія хочуць разьбіць сьцяну нацыяналізму й ісьці да агульнай мэты: праз ідэю Чалавека (зь вялікае літары) да едзінасьці "неделимой".

===о===

У вапошнюю хвілiну

Наш тэлеграфісты злавіў толькішто з этэру незразумелыя крыкі. Яму ўдалося занатаваць наступнае: "Усе на выбары! Усе на выбары!! Усе на выбары!!! Усе на найдэмакратычнейшыя выбары ў прадстаўні ... "

Тут апарат замоўк: прыстасаваньні толькі да вестак з прастага дэмакратычнага сьвету, найдэмакратычнейшых ня вытрымаў – перагарэла лямпка. З гэтае прычыны не ўдалося ўстанавіць, адкуль ішлі гэтыя весткі. Аднак, мяркуючы па стылі, можна заўважыць, што весткі могуць паходзіць толькі зь дзьвёх крыніцаў – або з Масквы, або зь ейнае зарубежнае філіі.

жжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжж=(Ж)=жжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжжж

## Адкажэце

1) На малюнку бачым чыгуначны разьезд, вагон А, вагон Б, паравоз П, і мост М.

Патрэбна пры дапамозе паравозу П перамясьціць вагоны А і Б так, каб на месцы вагона А стаў вагон Б, а на месцы Б – вагон А, уличваючы тое, што паравоз за высокі, каб праехаць пад мостам.

З а ў в а г а: Паравоз можа з разгону перапіхаць вагоны з аднаго боку мосту на другі.

– о –

2. Даецца 4 паўпэнсавыя і 4 аднапэнсавыя манэты. Уляжыць зь іх квадрат так, каб кожны бок яго даваў у суме а) 2 пэнсы; б) $2\frac{1}{2}$ пэнса.

– о –

3. Аднаму чалавеку трэба перайсьці цераз кладку з 3-ма аднафунтовымі гірамі. Аднак кладка можа вытрымаць толькі яго ны цяжар і цяжар 2-х гіраў. Як прайшоў чалавек адразу з усімі гірамі?

– о –

4. Даецца 7 куляў, аднолькавых велічынёю й колерам. 6 зь іх – аднолькавай вагі, адна – нязначна цяжэйшая. Колькі разоў і як трэба разважваць на вазе, каб найхутчэй знайсьці цяжэйшую кулю?

– о –

5. На малюнку – квадратовая плошча зямлі, акружаная глыбокай канавою ў 4 мэтры шырыні. У канаве вада. Як можа дабрацца чалавек на гэты абток маючы з сабой толькі 2 дошкі даўжынёю па 3,90 мэтраў.

З а ў в а г а: Чалавек плаваць ня ўмее і ня мае чым злучыць дошак.

---о---0---о---

У в а г а ! За найхутчэй надасланы трапны адказ на ўсе пытаньні вызначаецца ўзнагарода – бясплатны наступны нумар нашага часапісу.

======хХх======

Адказы на пытаньні з 6-га нумару.

1). Сярнічку.
2). Самцы.
3). Газэта не магла ведаць што сьніў жыхар перад сьмерцяй.
4). Мокрыя.
5). У паліцыі.

оооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооооо

## Увага!

Пачынаючы ад гэтага нумару, адкрываем Аддзел Пошукаў.
Дзеля таго што наш часапіс высылаецца ў розныя краіны (Нямеччына, Францыя, Бэльгія, Канада, ЗШПА, Аргентына, Марокко і г.д.), спадзяемся, што гэта дасьць магчымасьць шмат каму з нашых суродзічаў адшукаць сваіх родных ці знаёмых, расьцярушаных па чужыне.

---

## ПОШУКІ

Семянюка Уладзімера зь вёскі Капусьціна, Ільянскага раёну, шукае Камінскі Міхась. Весткі на адрыс рэдакцыі.

Хто ведае пра месца знаходжаньня Жартун Насьці і Кашляк Насьці - паведаміць у рэдакцыю.

Ладуцьку Людвіка шукае бацька. Весткі на адрыс рэдакцыі.

Хто ведае пра лёс Дайнека Марыі - паведаміць у рэдакцыю.

Хто ведае пра месца знаходжаньня Казябы Івана - паведаміць у рэдакцыю.

Сваякоў і знаёмых з Дамашыч або Любчанскага раёну шукае Чабатар Кастусь. Весткі на рэдакцыю.

Сям'ю Урбана Кастуся К. - шукае сын. Весткі на рэдакцыю.

Сяброў і сяброўак з б. лягероў Капэн і Дэссаў шукае Алесь М. Весткі на рэдакцыю.

---

Заўвага; Абвесткі аб пошуках зьмяшчаем бясплатна.

"НАПЕРАД !" Часапіс беларускае моладзі. Рэдагуе "Дванаццатка". Цана ў Ангельшчыне 1 шылінг.
Адрыс рэдакцыі: CVIRKA UŁADZÍMIER, TAMWORTH MINERS HOSTEL, TAMWORTH, STAFFS, ENGLAND

## ЗЬМЕСТ



----о----

